БІБЛІЯТЭКА БЕЛАРУСКАЙ ПАЭЗІІ

# КРЫВЁЮ СЭРЦА

«БЕЛАРУСЬ»
1967

# ПЕСЕНЬ ПОЎНЫ ПАДСУМАК

Шмат каму з сучасных беларускіх паэтаў давялося да самага донца выпіць горкую паходную біклагу на дарогах вайны. Некаторыя сябры навечна згаслі, спяць у брацкіх магілах, і сёння нават не ведаеш, дзе яны, гэтыя магілы — над Брэстам, у данскім стэпе, над Волгай, за Дунаем ці Одэрам...

Толькі часам праб'ецца праз дзірван з глухога долу засмяглы, улюбёны ў жыццё салдацкі голас:

Ніколі не ехаць
Хлапцу маладому
Да блізкага гаю,
Да роднага дому.

Над ім асыпаюцца
Слуцкія краскі,
Абсмалены колас
Схіліўся да каскі.

Ляжыць ён, як віцязь,
У стоптаным жыце.
Маці спаткаеце —
Ей не кажыце...

Верш напісаны ў сорак першым на Заходнім фронце.

Я гартаю паэтычныя зборнікі «На сурмах баравых» і «Барвовая зара». Мікола Сурначоў на свае вочы не бачыў іх, не ад-

чуў «шчасця першай кнігі». Усе яго вершы ствараліся на полі бою — у траншэях над Дняпром, у бліндажах на Каўказе і Румыніі, на лясных прывалах у Беларусі і Польшчы, у шпіталях глыбокага тылу.

Старшы лейтэнант Мікола Сурначоў быў некалькі разоў цяжка паранены. Яго ж франтавая лірыка ніколі не пакідала баявога строю. Яна, разам з аўтарам, дайшла да Берліна. Адтуль, з Берліна, у Дзень Перамогі, прыляцела трагічная вестка. Аднапалчане, пабрацімы Міколы Сурначова, пісалі: «...Калі мы прагналі немцаў за Одэр і рыхтаваліся да апошняга штурму Берліна, да нас са шпіталя вярнуўся Мікола. Мы былі ўсе рады бачыць свайго камандзіра, з якім так доўга білі ворага...

Да Берліна заставаліся лічаныя кіламетры. У жорсткім баі Міколу параніла ў руку. Раненне было цяжкім, але наш адважны камандзір адмовіўся ехаць у шпіталь і прадаўжаў весці бой. І вось у ноч з 19 на 20 красавіка мы непрыкметна паглыбіліся далёка ў тыл і напалі на адступаючую калону нямецкіх войск. Завязаўся жорсткі бой, які перайшоў у рукапашную. Перамога была за намі. Толькі не было ўжо Міколы. Нямецкі фаустпатрон трапіў у яго. Смерць прыйшла імгненна. Міколу пахавалі ў брацкай магіле ў 8 кіламетрах ад Берліна. Над магілай свайго друга мы пакляліся адпомсціць ворагам за яго смерць. Сваё слова мы стрымалі... Жывыя натхнёныя словы паэзіі Сурначова, яго баявыя песні, якія ён тварыў пад гукі мін і снарадаў, будуць вечна жыць у нашых сэрцах...»

Вы не памыліліся, баявыя сябры паэта! Творы Міколы Сурначова — своеасаблівы паэтычны летапіс Вялікай вайны. Колькі год мінула, але і сёння, хвалюючыся, слухаеш радкі яго, мусіць, праграмнага верша «Чырвоная зорка» — аб непагаснай салдацкай зорцы:

Услаўце ж зорку, зорку вызвалення!
Бо доўга-доўга будзе зорка гэта
Ісці па заняволенаму свету.
Дзе зорка гляне — там зардзее ранне.

Многім не давялося ўбачыць «ірдзеючага ранння». Я не ведаю, дзе адшукаць салдацкія магілы маіх сяброў па інстытуту, дзе пахаваны яны, маладыя паэты. Аляксей Коршак спіць непадалёк паселішча Ласлейндорф ва Усходняй Прусіі. Аляксей, Алёша... Дваццаць пяты год яму пайшоў, і раптоўна — гэта, сустрэчная, чарга з аўтамата... Як ён працаваў над вершам у пакойчыку на Студэнцкай!.. Ён тады падрыхтаваў да друку зборнік «Пялёсткі». Рукапіс захаваўся ў бацькі. Толькі цяпер зборнік пабачыў свет. Сябры назвалі яго трохі інакш — «Апаленыя пялёсткі», папоўніўшы вершамі ваеннага часу. Вось адзін з апошніх вершаў Аляксея Коршака «Паранены» — рэквіем самому сабе:

От і ўсё. За светлы край азёрны,
За вясну ў палёх,
Неба сіняе у кроплях зорных
Я навек тут лёг.

Нада мной шуміць ракіта кволая,
Нада мной трава.
Сыплецца на сэрца невясёлая
Злой тугі жарства.

Бачу неба сіняе і блізкае
У астатні раз.
Меншыцца яно, маланкай бліскае,
Пачарнела ўраз.
Дзесьці плача кнігаўка... Ці маці...
Мама, бліжай сядзь.

Хочу глянуць, хоць крыху абняці —
Галавы не ўзняць.

На мемарыяльнай дошцы ў будынку Саюза пісьменнікаў Беларусі ўвекавечаны імёны празаікаў і паэтаў, што аддалі жыццё ў барацьбе супроць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у гады Вялікай Айчыннай вайны. Іх — дваццаць два. Іх няма сярод нас, няма нашых дарагіх таварышаў, пісьменнікаў, салдат і афіцэраў... Яны загінулі смерцю харобрых... З пашанай і хваляваннем чытаеш сёння іх вершы, паэмы, апавяданні, дзённікі, франтавыя лісты — суровую споведзь гераічнага пакалення.

Байцы высока цанілі, берaглі, як набоі, шчырае слова пісьменнікаў-франтавікоў. У паходах, на прывалах чыталіся вершы Андрэя Ушакова, Аркадзя Гейне, Уладзіміра Рагуцкага, Міколы Сямашкі, Рыгора Жалезняка, Сяргея Крыўца.

У першыя дні вайны ішла ў бой танкавая брыгада з песняй, якую напісаў малады таленавіты паэт-танкіст Леанід Гаўрылаў, аўтар пасмяротнай кнігі «Вернасць». У часе баёў пад Масквой чытачы сустракалі на старонках «Комсомольской правды» вершы, падпісаныя: «Палітрук Аляксандр Сінічкін». Гэта гучала слова нашага Алеся Жаўрука, слова, поўнае гневу да ворага.

У 1937 годзе Алесь Жаўрук, студэнт Маскоўскага інстытута гісторыі, філасофіі і літаратуры, напісаў паэму «Крывёю сэрца», прысвечаную барацьбе іспанскага народа. Рэспубліканская Іспанія была першым баявым плацдармам барацьбы з фашызмам. Славячы ў паэме адвагу Пятага палка і мужнасць Пасіянарыі, паэт вызначыў сваё месца ў барацьбе. Гэта месца — на пярэднім краі. І сталася так, што ён поплеч ваяваў у Сталінградзе і загінуў побач з лейтэнантам Ібаруры, сынам Пасіянарыі.

Армейскі журналіст Алесь Жаўрук — аўтар вядомых у Беларусі кніг лірыкі «Ручаіны» і «Дняпро выходзіць з берагоў», выдадзеных яшчэ да вайны.

На легенду падобен лёс беларускага паэта Змітрака Астапенкі. У пачатку трыццатых ён выдаў некалькі зборнікаў вершаў, напісаў навукова-фантастычны раман «Вызваленне сіл» аб расшчапленні атама. Тады ж Астапенка быў двойчы незаконна арыштаваны і асуджаны ў трыццаць сёмым на восем год зняволення. Перад вайной ён уцёк з сібірскага лагера. Вандруючы па краіне, увесь час мяняючы месца работы, Змітрок Астапенка пісаў у розныя інстанцыі, сцвярджаючы, што ўцёк дзеля таго, каб даказаць: ён сапраўдны патрыёт і гатовы аддаць жыццё за Савецкую Радзіму... Яго друг, пісьменнік Станіслаў Шушкевіч, які разам з ім прайшоў праз берыеўскія засценкі, нядаўна адшукаў цікавыя дакументы. «Адбылося нешта па тым часе зусім невераемнае,— піша Шушкевіч,— нечая добрая душа паверыла ўцекачу. Астапенка быў узяты ў армію, а пасля накіраваны са спецыяльным заданнем у варожы тыл». Перад адлётам Змітрок Астапенка напісаў эпічную паэму «Эдэм». 7 кастрычніка сорак чацвёртага года Астапенка даслаў у Маскву пісьмо сваім родным: «Вакол мяне крутыя горы. Схілы гор параслі елкамі і букам. Цяпер сонца. Учора, пазаўчора хмары чапляліся за нашы палаткі. Ішлі дажджы... Колькі хваляванняў. Напрыклад, пералёт праз лінію фронту. Парашутны скачок у горныя лясы і шмат іншага... Мае родныя! Напэўна, пасля гэтага пісьма я надоўга не буду мець магчымасці напісаць вам. Хай вас гэта не бянтэжыць... Зараз іду пешкі ў горы, насустрач небяспецы, у агонь барацьбы. Я ніколькі не баюся небяспекі, ненавіджу ворага, люблю вас, мае родныя. Чакайце!»

Пісьмо было апошнім. Краснапрэсненскі райваенкамат Масквы паведаміў жонцы, што «Дзмітрый Емяльянавіч Астапенка, знаходзячыся на фронце, прапаў без вестак у кастрычніку 1944 года». Ёсць меркаванне, што ён загінуў у Славакіі...»

У час вайны Беларусь нараклі краінай-партызанкай. Беларускі лясны фронт вядомы ва ўсім свеце. Англійскі буржуазны гісторык Рэйтлінджэр вымушаны прызнаць: «Сапраўдную гісторыю краіны пад нямецкай акупацыяй трэба шукаць у аналах партызанскай вайны». Партызаны займалі 60 працэнтаў тэрыторыі Беларусі. Бралі гарады. У лясах працавалі школы. У падпольных друкарнях выдаваліся газеты і кнігі паэзіі. Салдатамі ляснога фронту былі многія пісьменнікі. Некаторыя з іх загінулі. Паэт Алесь Дубровіч расстраляны карнікамі.

У паэта-франтавіка Андрэя Ушакова ёсць верш «Многаму ім ты ў жыцці абавязан»:

Навекі, як вобраз бацькоў сваіх,
Імёны іх прачытай і запомні.
Ты пройдзеш па полі, па сцежках лясных,
Праз ціхі вечар і ясныя промні.

Каб даць спакой здранцвелым нагам,
Прысядзеш спачыць у цяньку пад вязам.
І, можа, будзе зусім няўцям,
Як многаму ім ты ў жыцці абавязан!

Радкі з падсумка, поўнага песень.

Крывёю сэрца напісаныя радкі можна паставіць эпіграфам да жыцця і творчасці ўсіх беларускіх паэтаў, якія загінулі смерцю харобрых у баях за Савецкую Радзіму.

*Анатоль Вялюгін*



# Змітрок Астапенка

## НА ЎСХОД СОНЦА

На ўсход сонца!
На ўсход сонца!

Узнімайся, брат, радок мой,
Завалоданы віхурай
І захоплены імкненнем
На ўсход сонца, на ўсход сонца...

З год раскіданага смецця,
З учарайшага стагоддзя
Ўсмешкай мёртваю смяецца
Спарахнелае мастацтва —

Каланады пышных храмаў,
Сцены гордае Элады,
Чорных прывідаў герольды,
Чорны твар ілжывых масак...

Што было, што адзвінела
Без тугі, без слёз, без следу,
Што закрэслена навекі
Год бязлітаснай рукою —
Адыходзьце, адлятайце!

Хочу крочыць, хочу ймчацца
У вялікія стагоддзі,
Што нітуюцца ў аддалі,—
На ўсход сонца, на ўсход сонца...

Перуны адбушавалі,
Адгрымелі навальніцы.
З дзён разбітых вырастае
Постаць гордая камуны.

Чуеш? — мякка звоняць кельні.
Чуеш гулкі крык жалеза?
Кроў зямлі агнём пульсуе,
І зямля расце да сонца...

Хто шчаслівы жыць сягоння,
Хто кладзе муры стагоддзяў,
У каго, як сталь, цяглiцы
І палёт надхмарны думак —

Панапружвайце цяглiцы!
Напружыньце ўзлёты думак!
З новай песняй — нашай песняй
Узнімайцеся, ідзіце —

На ўсход сонца!
На ўсход сонца!

*1927 г.*

* * *

Агнямі і кроўю сардэчных паэм,
Ваганнем артэрый няспынным
Мы славу, вялікую славу пяем
Табе, дарагая краіна!

Хай кожнае слова і кожны уздых
Звініць галасамі баянаў
У далях балотаў і багнаў сівых,
У proймах бялёсых туманаў!

Няхай у суровыя высі твае
Пад згукі шырокага рання
Бунтоўная праца штандар узвіе,
Чырвоны штандар будавання!

На сінім балоце, дзе багна і мох,
Дзе бросня і водар багунны,
Няхай пракладзецца ў будучнасць мост
Пад рэйкамі гулкай чыгункі.

Няхай праімчыцца гарачы цягнік
З эпохі крыві і нягодаў
І рушыць сабою уздымныя дні
Вялікіх гадоў і стагоддзяў.

Агнямі і кроўю чырвоных паэм,
Сталёвай хадой індустрыі
Мы славу, вялікую славу пяем
Табе, дарагая краіна!

*1928 г.*

* * *

Гаварылі звонкія цапы,
Заклікалі восень на даліны...

На таку мякінны гостры пыл,
Ля асеці груд каласавіны.

А насупраць новае гумно
З гучнаю арцельнай малатаркай.
Восень цэдзіць бурае віно
На лісты, расквечаныя ярка.

На узлессі шастаюць лісты,
А лясы, як птушкі, затужылі.
На загоне грэчкавым пустым
Журавы махаюць белым крыллем...

Восень ходзіць, кідае лісты
Ды бярэ ў балоце журавіны,
А як пройдзе — шастаюць лісты
І злятаюць з дрэваў на даліны.

Гэткі добры, гэткі любы час,
Хоць і сум агортвае паволі.
Малатаркі звоняць раз у раз.
Ла-та-та! — разносіцца па полі.

Гаварылі гумны на зары,
Заклікалі восень на даліны,
Вось і восень ў золаце гарыць
І кідае лісце ў каляіны.

Ла-та-та! — заходзяцца цапы...
Ла-та-та! — імкнецца дрыгаценне...
На таку мякінны гостры пыл,
Лёгкі пыл апаў на прыгуменне.

*1929 г.*
*Мсціслаўль.*

## ЗВАРОТ ПАРТЫЗАНАЎ

Ой, на полі звон капытны,
Рэха ронячы, імкнецца.
На дарожаньцы прыбітай
Пыл стаіць, не расплывецца.

Не сумуй, лясок лагодны,
Разуквеццеся, паляны!..
Едуць з песняю паходнай
Роднай вёскай партызаны.

Мкнуцца-рвуцца у блакітах
Стогны-звоны песні трубнай,
А наперадзе — Мікіта,
Любы, родны, русакудры.

Станьце, станьце, партызаны,
Злазьце з сёдлаў, злазьце з коней!

Звонкім свістам увабраны,
Зазвінелі вокал гоні.

Зазвінелі, засвісталі,
Засмяяўся ясень статны.
Коні жаркія пасталі
Каля кожнай роднай хаты.

І сышоў з каня Мікіта,
Прытуліў к сабе Мар'яну.
Ой, шырокая ракіта,
Больш не будзеш ты заспанай!..

— Не паеду, не пакіну
Цябе, люба, больш ніколі...—
Заміраюць гукі, гінуць
У далёкім росным полі.

Ды быльнёг сухі зашастаў
У сініх песнях недапетых,—
Не загіне болей шчасце
У залатых палях Саветаў!..

*1927 г.*
*Мсціслаўль.*

## УЗОРНЫЯ ЛІШТВЫ НА ДОМЕ

Узорныя ліштвы на доме,
На ліштвах рукою гарэзнай
Якісьці мастак невядомы
Цудоўных фігур навырэзваў.

А там, у акне, з-за фіранкі
Дзяўчына глядзіць і смяецца
І штосьці таўчэ беспрастанку
У бліскучай мядзянай маждзэрцы.

Ударыць, і ўдар металёвы,
Як музыка, чуцен адгэтуль,
І песень вясёлыя словы
Раджаюцца ў сэрцы паэта.

Радачка, ну дзе цябе знаў я?
А стрэча ізноўку ці будзе?..
Мне сум нешта зноў заціскае
Мае неспакойныя грудзі.

Скажы!..— А дзяўчына фіранкай
Захутала вокны са смехам...
І смех на вішнёвым прыганку
Рассыпаўся срэбраным рэхам.

На даху ўсміхнуліся лaскі,
Замоўклі ў цішы аканіцы...
З якойсьці забытае казкі
Мне гэтая песня трызніцца.

*1929 г.*

## ЛІРЫЧНАЯ ЗІМА

Як вецер песні запяе
Пад зімавым завей разбегам,
Агні юнацкія паэм
Завеяць студзень хоча снегам.

Ён разрысуе вокны мне
Цвятамі дзіўнае краіны...
У сумётах стыне сыпкі снег,
І разуквеціць сосны іней.

Камін загасне агнявы,
Як дроў бярозавых не хопіць,
І завіецца, як жывы,
У жэрале змярцвелы попел.

І пойдзе вецер, як жабрак,
З сняговай торбаю жабрачай...

Са злосці свісне у кулак,
З тугі заенчыць і заплача.

Ён будзе йсці сабе ў прастор
Ад вёскі шэрай і да вёскі,
І будзе слухаць чорны бор
Шалёных песень адгалоскі.

Радача любы, ты з пуцін
Паўночных веяў і сумётаў
Ка мне дахаты прыляці
У час натхнення і самоты!

Прыйдзі, як будзе сніць зямля
Пра дні вясны зеленавокай,
І грукні ў дзверы: «Гэта я
Прымчаў з шляхоў сваіх далёкіх...»

Тады патроху раскажы
Пра горды сум дарогі снежнай,
І пра Урала рубяжы,
І пра сібірскі гул таежны...

Як спяць на поўначы маржы,
Як спяць нарвежскія фіёрды...
Як ля ільдзістае мяжы
Лёг акіян халодна-горды.

Я зачаруюся на міг
І пад сняжыстыя павевы,
Пад гул дарогаў снегавых
Складу вясновыя напевы...

Румянкі яркія паэм
Зачырванеюць на марозе...
А ты — мне песні запяеш
І снегам стукнеш на парозе.

*1929 г. Снежань.*
*Мсціслаўль.*

## НОЧ НА СТАНЦЫІ НЕГАРЭЛАЕ

### *1. Захацелася новых настрояў і слоў*

Захацелася іншых настрояў і слоў,
Скласці думкі вясновыя ў новым парадку.
Растрывожаны гул дымавых цягнікоў
Праімчаўся з вятрамі па пыльнаму тракту.

Захацелася ехаць у дальнюю даль
Па шырокай, як светлае неба, краіне...

Апранаецца сад у зялёны паркаль,
І у небе віры каламутнае сіні.

Вось тады, пакідаючы станцый агні,
Патыхаючы дымам і нафтавым пахам,
Адыходзіў ад Мінска бясконцы цягнік
І па рэйках змяістых спяшаўся на захад.

Бо яму усё роўна кароткі прагон —
Праімчыць з паравознаю дымкаю шызай.
І яго не ўсхвалёўвае слова «кардон»,
І ў яго на мяжы не пытаюцца візы.

І вось гэткім звычайным, якім і прыйшоў
У палі Беларусі з далёкіх лагчынаў,
Будзе ймчаць ён, спакойны, за нашай мяжой,
І па рэйках грымець, і уздрыгваць няспынна.

Ён магутным гудком не адзін страсяне
З невядомых паўстанкаў свайго падарожжа,
І не здзівіць — на станцыі польскі жаўнер
І над станцыяй дзёрзка узнесены «ожал».

Бо яму абыякавы станцый агні,
Шмат мінуў ён іх з дымам і нафтавым пахам.
Адыходзіў ад Мінска удалеч цягнік
І па рэйках спяшаў за кардоны, на захад.

## *2. Ах, не ў гэтым жа справа!*

Шмат я станцый страчаў у вандроўнай начы,
Але гэтай апошняй не бачыў ніколі,
Што ўвесь свет падзяляе на наш і чужы
На прымежным краі беларускага поля.

За якою — інакшасць і песень, і мэт,
І гады праплываюць не нашай чаргою,
За якою другі, мной нябачаны, свет
І жыццё праміпае зусім па-другому.

Я люблю Беларусь, як каханак, як сын,
І таму не трываю пякельнага болю,
Што пастаўленым слупам, дзе шэпчуць лясы,
Падзяляецца напал радзімае поле.

І на гэтай палове, дзе ўсе мы жывем
І дзе нашая доля ўзрастае, мацнее,
Мы складаем пякельныя песні паэм,
Што дыктуюцца словам пахмурага гневу.

Ах, не ў гэтым жа справа, што ёсць Беларусь
На Усходзе й на Захадзе!..
Справа не ў гэтым!
Гэта станцыя ставіць глухую мяжу
Для ўсяго невыказна вялікага свету!

І калі уяўляю, што там, за мяжой,
Вісне чорная ночка у колеры сажы,
Мне шкада не адной Беларусі маёй,
А падзелены свет неабсяжны.

Можа, ў час, калі гэтыя словы пішу,
Недзе там, за мяжой, за кардонам,
У Еўропе, начная трывожная жудзь
Прарываецца крыкам і стогнам.

І для тых, хто вясне пракладае сляды,
Патэнтованы кат і разбэшчаны вораг
За нянавісць да іх, за змагання гады
Піша чорнай рукою сваёй прыгаворы.

Не хапае душы змераць гэтую жудзь
Аніякаму ў свеце паэту.
Гэта станцыя ставіць глухую мяжу
Для ўсяго невыказна шырокага свету.

### 3. Як кудры белыя бяроз

Як кудры белыя бяроз,
Шуміць вясновы свежы вецер.
На Негарэлае прывёз
Мяне цягнік у гэты вечар.

І потым далей ў ноч і сон,
У разгоне шпаркіх кіламетраў

Прамчаўся зданню за кардон
З красавіковым сонным ветрам.

І вось тады, ў трывожны шум
Глухіх палёў і дум паэта,
Глядзеў я доўга на мяжу,
Мяжу зямлі шырокай свету.

Вось там, пад лісця сонны звон,
За колькі шпаркіх кіламетраў
Ўрываюцца цераз кардон
Савецкія начныя ветры.

Ляцяць без візы ў поля гладзь,
Да польскай дальняе Варшавы,
Чужым штандарам расказаць
Пра гордасць нашую і славу.

Лятуць, мінаючы вакзал,
Вартуючы начную цішу,
Каб даць натхненне і запал
Асуджаным глухіх Лукішак.

І там далей, праз ноч і жудзь
І неабсяжныя дарогі
У палац міністрам прынясуць
Начную хісткую трывогу,—

Што па фабрычных гарадох
Расце пажар нямых аколіц,
Што ноч над змеямі дарог
І што на крэсах неспакойна.

Прамчаць у ночнай сіняве
Над Мусаліні, рымскім папай
І зноў напомняць, што сусвет
Падзелены мяжою напал.

### 4. *Цягнікі грымелі*

Цягнікі грымелі ды імчалі...
Пад лістоў красавіковы грай...
Разам з сонцам залацелі далі,
Загараўся раніцаю край.

За акном міналі кіламетры
І з палямі роснымі плылі.
І штосчас мацней спявалі ветры
Пра вясну, пра радасці зямлі.

І таму у дні трывог і буры,
Родны край мой, творца і паэт,
Я вітаю звонкія віхуры,
што агорнуць песнямі сусвет.

І цябе вітаю, край машынны,
Што да нас завітвае цяпер!..

З добрым раннем, вольная айчына,
Аванпост СССР!

*Май 1930 г.*

## НА БЕЛЫМ ПАГОРКУ

На белым пагорку
Мы гуртам юнацтва страчалі,
Курылі махорку,
Смяяліся ў ясныя далі.

На сонца, на зоры,
На цёмныя пушчы глядзелі,
У лясныя азёры
Кідаліся з белай адмелі.

З юнацкіх гасцёвак
На шлях выбягалі шырокі.
Між сцежак жыццёвых
Сабе выбіралі дарогі.

Расталі ў тумане,
Прабеглі, як лёгкія хвілі,
Гады нашай рані,
Якіх мы тады не лічылі.

Вайна і пажары
На нашую долю прыпалі,—
Варожыя хмары,
Цалункі смяротнае сталі.

Смыляць нашы сэрцы,
Працятыя гневам і болем.
Час іхняе смерці —
Час клятвы святой перад боем.

Хоць крыўдна, хоць горка —
Будзь мужным і цвёрдым, як крэмень.
На белым пагорку
Сваю перамогу мы стрэнем.

*1943 г. IV*

## ПОМСТА ПАРТЫЗАНА

Гостры позірк з хітрынёй,
Валасоў імшыстых ворах.
— Гутэн таг! — Перада мной
Першы раз так блізка вораг.

Ён працягвае руку.
Ён запрошвае садзіцца.
Вось мы з ім ў адным кутку —
Дружбакі ды ўсё, як быццам.

Для яго я — хлопец, рус.
Быў у лесе. Звык бадзяцца.
І цяпер за хлеба кус
Сам панам гатоў прадацца.

— Сядзь, майн лібер... Водка? Гут!..
Зараз будзем паабедаць.
Партызан не бачыў тут?..
Мы пашлём цябе разведаць.

Будзе добра — вундэршон!
Будзе з Дойчланд вельмі дружба,
Будзе водка, самагон,
На нямецкай кухня служба.

Ой, як добра! Я гатоў.
Мне — на кухню? Дзякуй — данке!
Сыплю жмені п'яных слоў,
Сыплю фрыцу абяцанкі.

І закусваю, і п'ю,
Ем і п'ю — які тут сорам! —
Ты не знаеш, так тваю,
Што прыйшоў я з прыгаворам!

З прыгаворам над табой
Партызанскага савета.
Але ты сядзіш са мной
І не ведаеш пра гэта.

Каб ты знаў, што «сябра» твой —
Лепшы друг тае дзяўчыны,
Што замучана табой,
Згвалчана табой, скаціна!

Я маліў слязой, крывёй
Камісара, камандзіра,
Каб далі мне вырак твой,
Выканаць твой смертны вырак.

Камандзір мне: «Хлопец, ша!
Ну заб'еш. А сам — на звалку?»
Я яму: «Баліць душа.
Я любіў яе шчэ змалку».

Ён мне: «Удасца — прывяду
Да цябе жыўцом. І годзе...»
Я ім: «З месца не сыду,
Покі не дадзіце згоды...»

Камісар тут: «А калі б
Падысці такім манерам...»

Камандзір падумаў: «Сып!
Ды глядзі ў мяне, халера!..»

— Вып'еш? Можна і яшчэ —
Мне не спешна. Мне шчэ рана.
П'ю, не зводзячы вачэй
З парабелума-нагана.

Вырваць хіба? Не,— на жаль,
Вельмі дужы фрыц. Не ўдасца.
Вось — каб гэты нож-кінжал
На стале з бліскучым лязцам.

Мы гаворым. Ён — як змей.
На стале трохвёрстка-карта.
Вечар робіцца цямней.
Кацялкі пабрала варта.

— О майн лібер кінд! Ві — гут!
Ві на грос гешэфтэн варты!..
Я крычу яму: «Капут!..»
І хапаю нож з-пад карты.

Р-раз — наводмаш! Раз — ізноў!
Бачу — фрыц ужо зялёны...
Я кідаюся ў акно.
Ўслед мне — стрэлы і праклёны.

Штось скубнула за нагу.
Штось за карак укусіла.
Я качуся. Я бягу —
Як нясе нячыстай сілай.

Потым раптам — ноч і боль...
Я ляжаў. Мяне цягнулі.
Здэцца, быў нядоўгі бой.
Па суках хлясталі кулі.

Снілася пазней яна,
Снілася жывой Галіна.
— Кроў за кроў! — я прастагнаў.—
Ты адпомшчана, дзяўчына!

А праз месяц — зноў у бой.
Жыў. Здароў як бык — што нада.
На душы цяпер — спакой.
...Вось і ўся мая балада.

*20/IX 1943 г.*

* * *

Абяцаўся колькі раз
Кінуць вершы і каханне,
Не хадзіць у позні час
Ля чужых акон да рання;

Не глядзець чужых дзяўчат,
Не чапаць тугія косы,
Не хадзіць любоў страчаць
На чужыя сенцаплёсы.

Абяцаўся ўзважваць перш,
Чым рабіць там што-якое,

Лепш упіцца, чым за верш
Сесці з гэткай галавою.

Што гарэлка! — Без віна
Кожны п'яны ў нас, паверце...
Вершы дзіўныя й без нас,
Ачмурэўшы, піша сэрца.

Колькі бачыў. Колькі жыў.
Колькі раз кідаўся ў схватку!
Я б цяпер шчаслівы быў,
Каб пачаць усё спачатку.

Каб [illegible] сівое галавы
Срэбны груз гадоў быў зняты.
Каб спявалі — я і вы,
Каб кахалі нас дзяўчаты.

Я не стаў бы абяцаць,
Я накрыў бы стол гасцінны —
Вершы дзіўныя пісаць,
Піць віно жыцця няспынна.

*5/XII 1943 г.*

* * *

Не кажы, не абяцай,
Не бяры такое ролі!..
Ходзіць сонца. Шэпча гай.
Вецер блукае па полі.

На зямлю прыйшла вясна,
За сялом прысела з краю,
Адгадай — каторы з нас
Першы вымавіў «кахаю»?..

Не кажы цяпер, маўчы,
Не кажы — пачуе вецер...
Скажаш ноччу — уначы
Ціхім стане ўсё на свеце.

Не закідвай за спіну
Косы шоўкавыя — змеі.
Я спаткаў з табой вясну,
Я без слова зразумею.

Над сялом і за сялом
Пахне бэзам і язмінам...
Хай жа будзе ясным сном,
Ясным, светлым успамінам.

Ходзіць сонца над табой,—
Хай жа ходзіць так няспынна!..
Прытуліся галавой
Да маіх грудзей, дзяўчына...

*5/XII 1943 г.*

* * *

Паклянёмся любіць наш край!..
Паклянёмся, што ў нашыя сэрцы
Не ўкрадзецца ні страх, ні адчай,
Ні спалох немінучае смерці.

Мы у гэтым кляліся калісь —
У гады залатога юнацтва.
Гэты час і пара надышлі —
Клятвы нашыя мусяць спагнацца.

Той, хто вырас на гэтай зямлі,
Хто ўсмактаў яе цяжкія сокі,—
Ведай: час і пара надышлі
На геройства, на подзвіг высокі.

І цяпер, калі грому гармат
Кулямёт падпявае па-брацку,

Успомні брата забітага, брат,
Успомні, сын, скатаванага бацьку!

Будзем помніць, як цяжкі кашмар,
Як баёў і нягоды выснову —
Ненавіснага ворага твар,
Ненавісную ворага мову.

Пакляпёмся Радзіму любіць!
Яна з верай на нас пазлядае.
У нашых сэрцах жыве й будзе жыць
Наша даўняя клятва святая!

*6/XII 1943 г.*



# Леанід Гаўрылаў

## ЦІШЫНЯ

Цішыня над полем і над лесам,
І на хаты пала цішыня.
Сінім небам — месячык бялесы,
Сінім небам — грае вышыня.

І плыве, як грэчкі пах мядовы,
І плыве, як васільковы пах,
Ціхі смутак зеленагаловы
Па вачах любімых, па губах.

Наш рубеж акованы гранітам
І напят, як тонкая струна.
Ды спрабуй струну тую краві ты —
Адзавецца грукам перуна.

А пакуль спакойны заранiцы,
П'юць расу палеткі на зары,—
Сцерагуць свяшчэнную граніцу
Ўсе таварышы, усе мае сябры!

Вось таму над лугам, над садамі
І на воды пала цішыня,
І дарог мядзянымі слядамі
Пабрыла нямая даўжыня.

*1941 г.*

## АРЛЁНАК

Як вечар барвовыя промні
На вусны твае пакладзе,—
Узрушана, страсна, няроўна
Запросіцца сэрца з грудзей.
Ні ў кога вачэй такіх сініх,
Глыбокіх і шчырых такіх
Не бачыў я.

Мы з табой сына
Прадбачым у марах сваіх.
Не ўмеючы, голасам тонкім
Я ў лад нашым думкам пяю,
Я песню пяю пра арлёнка,
Любімую песню тваю.
— Арлёнак, арлёнак...
І сніцца
Шырокага стэпу кавыль.
Міжволі апусціш расніцы,
Баёў прыгадаючы быль.
— Арлёнак, арлёнак...
І сніцца:
Над пожнямі месяц плыве,
Шумяць у калінах крыніцы,
Радзімыя месцы твае.
У туманах, у замеці, ў дыме
Ты, свой пачынаючы шлях,
Басанаж мяжамі крутымі
Па чорным пажарышчы йшла.
Арлёнак над полем высока
У быстрым палёце кружыў,
І сонца паліла навокал,
І свет залаціўся і жыў.
А ты йшла малой, сіратою,
Кусаючы губы, ў слязах...
Ты стала харошай дачкою
Атрада байцоў-партызан.
І скрозь несціхана ты пела

Нямудрую песню сваю.
...У тваіх мазалях агрубелых
Я ласку тваю пазнаю.
Як вечар гарачыя промні
На вусны твае пакладзе,—
Узрушана, страсна, няроўна
Запросіцца сэрца з грудзей.
Я ўпэўнен: і нівам, і травам
Цвітучым багаццем расці.
Арлёнак — наш сын кучаравы —
Наследуе іх у жыцці.

*1939 г.*

* * *

Запахнуць ноччу духавітай травы,
Лагодасцю павее ад ракі,—
І блізкае становіцца яскравым,
Хвалюючым, кранаючым такім.

Бляск месяца, і вішань белых цені,
І пустацвет гарбузны на плятнях
Снуюць запеў, і лёгкім летуценнем
Спавіта песня аб цвітучых днях.

У водары палёў плыве здалёку
Узрушаны і жвавы вобраз твой,
Плыве спакоем зорак яснавокіх
Над вішнямі, над хатай, над травой.

Чаму ж усё сама ты не прыходзіш
На бераг мой, дзе лодкі чарадой
Калышуцца, дзе нізка над вадой
Каліны сняць каханне на выгодзе?

Я жду цябе, панікныя туманы
Па цёплай разасляліся вадзе,
Дзесь плюхнуў сом, і качкі крык стрыманы
Успалашыў сон дзеркача ў лазе.

Бяскрайнія шумлівыя прасторы
Шмат выткалі квяцістых пуцявін.
І як мне разгадаць тут, па каторай
Ты пройдзеш між узгоркаў і нізін?

Мы ў човен сядзем, плёскатам вясла
Маладзіка разломім палавіну,
Каб лётам смелым, лётам сакаліным
Дужэла песня, спела і расла.

*1939 г.*

## МАЛАДЗІК

Спавіты тугою
У пасмах журбы
Сухі маладзік
На галінах вярбы
Павіс над гарою,
А потым і знік.

Журылася матка,
Тyманіўся зрок,
І зоры слязамі
Мігцелі здалёк,
Шаптаў ёй здагадку
Шырокі разліў:

— Шмат хваль уцякае,
Іх чуе вярба,
Не ведае іх
Ні вайна, ні журба,
Ім смех нецікавы,
І плач не для іх.

Шмат хваль уцякае
У прасторную сінь,
Іх толькі адных
Папытаеш:
— Дзе сын?..

Ды доля цяжкая,
Ці ж скажуць яны?

*1935 г.*

## СОЖ

Ціхі Сож. Валавяныя воды.
Бурштынее зара ў берагах.
Дзесь глухія гудкі параходаў
Аблятаюць разліўны размах.

Як у люстры, густою сцяною
Кучаравіцца лес у вадзе,
Абярнуўшыся ўніз галавою,
К водам пільнае вуха кладзе.

*1935 г.*

## ПАЭТУ

У пошуках слоў
глыбіні пачуццёвай,

Каб выказаць шчырыя
думкі свае,—
[illegible] часта хвалююся
ў віры жыццёвым,
А поўнасці цэльнай
ніяк нестае.

І зараз я слоў
не знайду ў хваляванні,
Сказаць вам ад сэрца,
па-простаму так,
Каб вы адчувалі
маё прывітанне,
Як вашу спагаду
шануе юнак.

Мо я не паэт,—
харастком славасека
Не ўмею за выдумкай
плюшчыць павек.
Я бачу ў паэце, у вас,
чалавека
І хочу сказаць гэта
як чалавек.

Прабачце нязграбнасці
гэтага верша
(Пяру маладых
уласцівы яны),

Радкі мае —
    кволыя водпрыскі першай,
Зялёнай маёй
    паэтычнай вясны.
. . . . . . . . . . . . . . .

Мне помніцца першая
    наша сустрэча.
А гэта зусім так
    нядаўна было.
Я гэтак наіўна
    і так недарэчы
Прыехаў сюды,
    занядбаўшы сяло.

І ваша адна
    чалавечая чуласць
Жывіла, вяла,
    акрыляла мяне!
Пагэтаму зараз
    так шчыра хачу я
Узнесці яе
    за вясну
    па вясне!

*1935 г.*



# Аркадзь Гейне

## ШЧАСЛІВАЯ ЗОРКА

Помніш, летняй ноччу цёмна-сіняю —
Шчаслівейшай нашаю парой —
Слухалі мы песню салаўіную
У зялёным садзе над ракой.

Месяц з-за высокіх ліп квітнеючых
Усміхаўся ласкавым святлом;
Зоркі, ясным бляскам палымнеючы,
Падалі далёка за сялом.

У народзе ёсць павер'е гэткае,
Быццам мае кожны чалавек
Зорку ў небе, для яго прыметную,
І яе жыццё — ягоны век...

Парашылі мы тады з усмешкаю —
Ты — сабе асобна, я — сабе —
Выбраць шчаслівейшую, найлепшую
Зорку...

Я спытаўся у цябе:
— Ну, твая, напэўна, там, што
свеціцца,
Дзе ляжыць вялікі Млечны Шлях,
Або там, дзе зорная Мядзведзіца,
Самая ярчэйшая...
Ці так?..

Ты зірнула ў ночы даль маўклівую
І сказала: — Не, не адгадаў;
Выбрала я самую шчаслівую,
Што ў Крамлі...
І выбар наш супаў...

*1938 г.*

## ПЕСНЯ ДЗЯУЧЫНЫ

Узыходзіла сонца над гаем.
Я цябе правяла за сяло.
Ты сказаў мне: — Бывай, дарагая!..
Усміхнуўся і сеў у сядло.

Я стаяла, махала рукою,
Налівалася сэрца тугой.
— Напішы мне што-небудзь парою,
Не забудзь, ненаглядны ты мой...

Нечакана з далёкай заставы
Вестка сумная ў хату прыйшла,—
Што загінуў у бойцы са славай
Лепшы хлопец і воін сяла.

Не змываецца гора слязамі,
Ад жальбы на душы не лягчэй.
Я пайшла за табою слядамі,
Што не выцвілі ў травах яшчэ.

Ты ляжыш і не ўстанеш ніколі,
Згас твой погляд навек агнявы.
Галаву апусціўшы, на волі
Ходзіць сябра твой — конь баявы.

Я каня асядлаю з любоўю,
Я прачышчу вінтоўку тваю,
І — расплоцяцца ворагі кроўю
За цябе у наступным баю!..

*1938 г.*



# Алесь Дубровіч

## МЫ

Мы — скрыўджаных няпраўдай струны,
Адным распалены агнём.
Мы гімн пакуце граем сумны
І славу барацьбе пяём.

Натхненне наша у змаганні
За шчасце новага жыцця,
Мы летуцім аб светлым ранні,
І шмат у песнях пачуцця.

Мы сэрцам полымным і чыстым
Асвецім шлях сябрам другім
І верым: песняй урачыстай
Мы перамозе зложым гімн.

*1932 г.*

## КРАПІВА

Зелянее на сонцы пад плотам
І шапоча маркотна крапіва,
А на вёсцы — нядоля, бядота,
Нашы людзі жывуць нешчасліва.

Зачарсцвелага хлеба скарынка
Часта ўпрочкі ідзе ад абеду.
Доўга ў місцы малая крупінка
Усё гарцуе, не робячы следу.

Перад лыжкай павернецца крута,
Быццам дробная рыбка з-пад сеці,
І лавіць яе гэтак — пакута,
Недарма — замарнелыя дзеці.

І шапоча маркотна крапіва
Пад вясновага сонца праменнем:

Гэты позірк галодны, скваплівы
Адшукаў яе, нібы збавенне.

Заўтра справяць галодныя дзеці
Па вясне зноў памінкі крапівай:
Весялей будуць вочы глядзеці,
З-пад рукі выглядаючы жніва.

*1936 г.*

## ЗОРНЫ КРАЙ

Мне песняй выліць хочацца
Увесь жар грудзей маіх.
Наперад!.. Не варочацца,
Хоць шлях калюча-ліх!

За хмарамі, за горамі
Ёсць сінязорны край.
Іду к яму нязморана —
Гэй, сэрца, марш іграй!

Прыпол там, зорак поўны, я
Згарну з той сінявы.
Да вас, прасторы родныя,
Да сцежак палявых

Вярнуся, поўнай жменяю
Сыпну пад стрэхі хат,—
Няхай гараць праменнямі,
Да дня гараць няхай!

*1938 г.*

## КІНУ СВАЕ ДУМЫ

Кіну свае думы жураўліным лётам —
Хай лятуць да сонца, у далёкі край.
Сам пайду і сяду пад лазовым плотам
І пра тое сонца буду ціха граць.

І хоць скасцянеюць пальцы на марозе,
Не пакіну кратаць галасістых струн,
Хай зімой завеі выюць на парозе
Ці ў барах сасновых плачуць, як лясун.

А як пашарэе белы снег пад плотам —
Падкручу ў цымбалах кожную струну
І на ўсіх, залітых раўняй пазалотай,
Я зайграю з ветрам маладым вясну.

І па хатах людзі вечарам лучынным
Пра вясну, пра сонца будуць гаварыць;

Выйдуць на пагоркі з туманоў лагчынных,
Каб вясеннім сонцам грудзі апаліць.

Дык ляціце ж, думы, жураўліным лётам,
Каб хутчэй сустрэцца з сонцам і з вясной!
Ш іграць не кіну пад лазовым плотам,
Рукі не самлеюць, воч не сплюшчу сном!

*1938 г.*

* * *

Пад звон дратоў, сумуючы,
Ідзеш, мой брат, куды?
Дзе кінуў вёску, вуліцу,
Дзіцячыя гады?..

Знаць, птушкай пералётнаю
Ляцеў ты ў край вясны,
Ды шэрымі палотнамі
Апалі туманы

У прасторах; а з варожбамі
Хтось шлях твой заараў,
З рукамі зноў парожнімі
Цябе твой край спаткаў?

Ці горш? — глядзіш з трывогаю,
Што шлях яшчэ далёк,
І пад цяжкой знямогаю
Застыў на сцежцы крок?

Ды не! — казаў надоечы:
Не схіліш галавы,
Надзею ў сэрцы тоячы,
Як промень веснавы.

Калі ж і засумуецца —
З чупрыны сум страхнеш
І вёсцы, роднай вуліцы
Зноў аб вясне спяеш!

*1938 г.*



# Рыгор Жалязняк

## БУДУЕМ ДАРОГУ

Суровыя ветры
У краях балацвяных
Гудуць і сваволяць
Уздыхам глухім.
Бязмежную шыр
Апавілі туманы,
Схавалі дарогу
У змроку нямым.

Не едзь, спадарожнік,
Цьмяным адвячоркам
Схаваюць ў абдымках
Сваіх балаты.
Тут людзі і коні
Вязлі учора,
Тут шэры туман
Узняўся й застыў.
А сёння —
Напорыстым ўзмахам рыдлёвак
Узрываецца багны
Спрадвечны прастор,
Густыя чароты
Шэпчуць аб новым,
Гуд камнедрабілак
Разнёсся між гор.

Праз шэрую гаць
І нетры лясныя
Мы мосцім дарогу
У даль, гарады.
Не марылі людзі
І далі не снілі
Запал будаўнічы
І творчы уздым.

Будуем дарогу —
Растуць кіламетры!
Гартуем краіну

Ў бетон і ў сталь.
Праз шэрую замець
І чорныя нетры
Мы выйшлі ў светлую,
Зорную даль.

*Кастрычнік 1932 г.*

## ВАЕНМОРАЎСКАЯ

Сіняй пенай,
Мора, пенься,
За кармою,
Вал, цячы;
Разлівайся,
Наша песня,
Па прасторах
    Балтыкі.
Узвядзём
    затвор на ўзвод.
Ўзвеем
    вымпел вышай.
Бачым:
    ў сінь савецкіх вод
Вораг
    з мінай выйшаў.

Грэбні скалаў
    хвалі ўзмылі,
Уніз святло
    маяк схіліў.
Убягаюць змейкай мілі
    за далёкі небасхіл.
Мы былі
    ў глыбі Гальштрому,
У Гамбурзе і Любеку.
А цяпер —
    імчым праз стромы
Да свае рэспублікі.
Завірухі і навалы
Бачны
    праз пацёмкі нам,
У Гамбургскім парту
    паўстала
Грозна здань
    Пацёмкіна.
Узнялася гладзь марэй,
    час разліку
    блізак.
Будзе час —
    дамо мы рэйс
Праз сусвет
    без візы.
А пакуль
    пільней за вахту,
Узрастай, наш творчы ўздым.

Хай цячэ
    Краіне з шахтаў
Мора вуглю
    і руды.
Узвядзём
    затвор на ўзвод,
Ўзвеем
    вымпел вышай,
Каб у сінь
    Савецкіх вод
Вораг звоў
    не выйшаў.

*Кастрычнік 1932 г.*



# Алесь Жаўрук

## РАГАЧОЎСКІ СШЫТАК

### I

Засталося пакланіцца клёнам
Ды ускінуць куртку на плячо.
Не сумуй па госцю,
Мой зялёны,
Мой птушыны горад Рагачоў.

Кіраўск. Стынь. Карэльскія бярозы.
Кліча новых сцежак хараство.

Што паробіш з неспакойным лёсам,
Салаўіным цяжкім рамяством?!

Ціхім ранкам пад павевам лёгкім
Над вадою шэпчуцца сады.
Ціхім ранкам у працяг далёкі
Я прайду, задумны й малады.

Між сланечнікаў праз палісаднік
Пракладу шырокі росны след,
Лодачнік,
Заядлы галубятнік
І вясёлы на зямлі паэт.

І аднойчы вечарам лагодным
У гасцях у дальніх землякоў
Раскажу я з гонарам
пра родны
Свой зялёны горад Рагачоў.

II

Помню рань: па росах,
па пялёстках
Бег я з вудкай,
А з чарвямі ўслед
Басаног па цёплых лужах плёскаў
Сябра мой і будучы паэт.

Толькі раптам бачым: на дарозе
Нам насустрач Козыраў Раман —
Мамкіных усіх сынкоў пагроза,
Хлапчукоў фабрычных атаман.

— Значыць, што ж,
вы зноў на рыбку, цацы?..
Чулі, мажуць пяткі белякі...
Заўтра прыйдуць нашы —
ўлада працы!
Паступай, як я, ў бальшавікі!

І на зайздрасць памахаў наганам...
Мы прасілі ў рукі патрымаць;
Замест рыбы мы пайшлі з Раманам
На вакзале зброю даставаць.

А назаўтра ўсю братву будзілі —
Беглі сустракаць бальшавікоў,
Потных коней, шчасныя, вадзілі,
Елі кашу з медных каццялкоў.

III

Так ад кашы гэтай незабыўнай
Я лічу свой першы сталы крок.
Маладосць
Праз ветры і праз лівні
Без прыгод, пазычаных з кніжок,

Скрозь ішла
І ў сцежках не прыстала,
І з мальцоў віхрастых і дзяўчат
Мы прыйшлі,
                    сябры мае,
                              у сталасць
З цеплынёй і шчырасцю ў вачах.

Нам цяпер ўсё болей паслухмяны
Хвалі самай бурнае ракі,
Самалёты, малаты і краны,
Зброя і гарачыя радкі.

Пад прывольным рагачоўскім небам
На дняпроўскім беразе крутым
Мы яшчэ збяромся калі-небудзь,
Прыгадаем песеньку аб тым,

Як шумелі маладыя клёны,
Як між хмарак ціхі месяц плыў,
Як на нашай вуліцы зялёнай
Сам Сямён Міхайлавіч Будзённы
У Дняпры каня свайго паіў.

IV

Мы нядарма, шчуплыя, хадзілі
З карабінамі цяжкімі ў бой —
Здабывалі слаўную Радзіму
Маладой
Гарачаю крывёй.

Не атруцяць золкія туманы
Над Дняпром зялёную траву.
Над магілай ціхай Цымермана
Строі ліп трымаюць каравул.

І плывуць у сонца пералівах
Самалёты
Між абрыўкаў хмар,
І звініць дзіцячы смех шчаслівы,
Пра каторы марыў камісар.

І на золку, пеўнямі узняты,
Архітэктар едзе на раён —
Месца для будынкаў камбіната
Як хутчэй агледзець хоча ён.

Росна. Цёткі на высокіх градках
Выбіраюць свежыя гуркі,
Покуль цэглу
І цэмент у кадках
На гару імчаць грузавікі.

## V

Тапалёў дрымотныя прысады
У вялікі парк у нас вядуць.
У белых тапачках дзяўчаты з саду
Удоўж па Цымерманаўскай ідуць.

Згасне дзень.
Пад лёгкімі вятрамі
Горад ў сініх змроках патане.
Толькі песенька яе
Ля брамы
Не спаткае весела мяне.

Залатой не прычакаўшы грыўкі,
Да хлапцоў на лавачку звярну,
Пачытаю новыя урыўкі,
Папрашу ад скрухі тытуну.

А калі спытаюць:
— Дзе ж сяброўка? —
Не змагу я боль свой захаваць
І прыдумаць не паспею зноўку,
Што б такое толкам адказаць.

## VI

— Ну, сынок мой, зноўку у паходы,
Хай жа смутак любага міне! —

Выпраўляла маці, як заўсёды,
Як малога хлопчыка, мяне.

Дырэктыў адказных надавала,
Меркаванняў матчыных сваіх
І ва ўсе кішэні напіхала
Верасьнёвых яблык залатых.

Як прыпомню я — у свеце белым,
Родная,—
Ні свет і ні зара —
Шмат дзянькоў сіберных ты
сустрэла,
Гора не сыходзіла з двара.

Што ж, ці прыгадала аб мінулым,
Як даўней збіраўся хлопец твой?
Зноў прыкрыла вочы
І ўсплакнула.
Па прывычцы, кажаш, па старой.

З самым дарагім, што ў свеце маю,
Гэтую гарачую слязу
Я глыбока ў сэрцы захаваю,
Праз усе дарогі пранясу.

VII

Уздрыгнуўшы, паплывуць вагоны,
Ціхі домік прамільгне здалёк...

Апусцеў садоўніцкі зялёны,
Охрай фарбаваны флігелёк.

Даўняя сумотная аповесць!
Як вялікі некалі сказаў,
Там пакутваў,
Там кахаў я калісь,
Там сваё я сэрца пахаваў...

...Дзе ж ты зараз,
Па якіх сцяжынах,
З кім ты ходзіш,
                    хоць бы ведаў я,
Дзе яна, пад колер апельсінаў,
Хустка бесарабская твая?

Я на кожным ветраным паўстанку,
Паўз які шляхі мае вядуць,
Усё шукаю поглядам смуглянку,
Усё баюся, каб не прамінуць.

Аб'явіся,
Ўсмешкаю парадуй,
Слова прывітальнае скажы.
Запрасі па-даўняму у хату,
Сына — радасць госцю пакажы.

VIII

Засталося пакланіцца клёнам
Ды ускінуць куртку на плячо.
Не сумуй па госцю,
Мой зялёны,
Тройчы слаўны горад Рагачоў.

Пра спатканні гэткія
і ў далях
Успамін не хутка растае.
На любым карэльскім перавале
Буду славіць яблыкі твае.

Буду частаваць сяброў на сходзе,
Успамінаць пра шумныя сады,
Пра гурток мастацкі на заводзе,
Пра разгул дняпроўскае вады,

Пра вазоў калгасных караваны,
Пра дзяўчынку з грыўкай залатой,
Што маіх паэм усхваляваных
Не хацела слухаць нізашто.

*1936 г.*

# ІЗНОЎ ЗА АКНОМ БЛІСКАВІЦЫ МІЛЬГАЮЦЬ

Ізноў за акном
Бліскавіцы мільгаюць,
І ліўні над дахам шумяць.
Такой калі-небудзь
Парой, дарагая,
Нам выпадзе коней сядлаць.

Падгонім страмёны,
Праверым вінтоўкі,
Начысцім пяском кацялкі,
Бывайце, чарэшні,
Бывайце, сяброўкі,
Вядзі, камандзір наш, палкі.

Свяціце паходняй,
Далёкія зоры,
Палайце над цэлай зямлёй!
За шчасце радзімы
Ад мора да мора
Народы устануць сцяной!

Мы пройдзем праз пушчы,
Не згубім напрамак,
Займуцца агнём рубяжы.

Не трэба, матуля,
Не плач каля брамы
Ды ўнука пільней беражы.

Няхай мы спаткаемся
З куляй раптоўнай
У першыя тыдні вясны,
Сябры перамогуць
У бойцы ўсё роўна
І сына ўзгадуюць яны.

Широка і вольна
Па цэлым сусвеце
Без меж закрасуюць палі,
Шчаслівыя людзі
З вясёлымі дзецьмі
Па радаснай пройдуць зямлі.

І песню узнімуць
Над сонечнай шырай
Такую, як моркі прыбой,
Пра слаўныя былі,
Пра дружбу і шчырасць,
Пра нас, дарагая, з табой.

*1936 г.*

«РУЖА»

А ці міг, ці век — не знаў ніхто там,
Колькі моўчкі праляжалі мы
На краі сыпучага сумёта
Пасярод марознае зімы.

Толькі раптам лютаўская сцюжа
Адступіла быццам, адлягла.
Чую і не веру сам я — «Ружа»:
«Ой, расцвіла ружа, расцвіла...»

Азірнуўся: ціха ў задуменні
Сам сабе спявае зампаліт.
Слухаем. І нікне поўнач ценем,
Іншыя ўстаюць хлапцам палі.

Случчына каму, каму у песні
Амсціслаўшчына яго ўстае,
Мне ж — рачэнскі край, маё Палессе,
Вербы, вочы ясныя твае.

І узбек, сусед мой, вочы мружыць
(Што ён прыгадаў у той цішы?),
Слухаў, слухаў і ўсміхнуўся: «Ружа.
Ружа,— зноў ён паўтарыў,— якшы».

І да самае атакі потым
Больш не думалі аб сцюжы мы
На краі сыпучага сумёта
Пасярод марознае зімы.

Так заўжды хвілінамі цяжкімі
Саграваеш ты, Радзіма, нас
Зор сваіх святлом, вялікім імем,
Шчыраю парадай ў добры час!

Вестачкай паштоўкі нечаканай,
Пачкам папярос, здалёк прысланым,
Песняю сардэчнаю сваёй,
Проста думкай аб табе адной.

*Мажайск, 1942 г.*

## КРЫВЁЮ СЭРЦА

(Гвадарамская аповесць)

Гренада, Гренада,
Гренада моя.
*Мих. Светлов.*

Цвілі акацыі. Завесай
Пялёсткаў, лівеняў
і стрыжоў
Кіпучы чэрвень на Адэсу

З узмор'я цёплага ішоў.
І ў люкі чорных параходаў,
У пыл партовай мітусні
З начы ўрываўся церпкі водар
Мядзвяных траў.
                    У тыя дні
Па свежаку, па хмельным ўлонні
Блукаў над самаю вадой
Шыракаплечы каталонец
Барталамео Гільярдо.
Як сына роднага, Адэса
Спаткала ветла марака.
Стары заслужаны прафесар
Яго лячыў.
                    Ужо рука
Не ныла. Толькі пальцы нешта
Усё не сціскаліся ў кулак.
І ўсё чакаў, чакаў марак,
Калі прафесар,
Зняўшы ўрэшце
З рукі павязкі ўсе свае,
Пацісне, дужую, яе.
Усё чакаў, калі гранату
І стрэльбу верную калі
Яна узніме зноў на катаў
Яго далёкае зямлі.

Мы падружыліся. Па-руску
Мой сябра ведаў сорак слоў,

А я свой леташні французскі
Залік
Не ў жарт прыгадваў зноў.
Калі ж рэсурсы ўсе знікалі,
Звычайных сродкаў апрача
Мы карысталіся рукамі
І разумелі па вачах.
Шумелі хвалі. Брыз прахладны
Студзіў нам твар сваім руном.
Ён частаваў мяне заядлым
Сваім матроскім тытуном.
Узбегшы лёгка на прыгорак,
Ён аглядаў прасцяг далін
І прагна дыхаў, быццам хворы,
Паветрам нашае зямлі.
Ды слухаў, як грукочуць краны,
Як васьмікласніцы пяюць,
І ўсё расказваў, ўсхваляваны,
Мне пра Іспанію сваю.
Так пад крылом блакітнай ночы,
Калі ля ног шумеў прыбой,
Аповесць сумную аднойчы
Мне расказаў таварыш мой.

I

Год пяць назад пад Авіеда,
У капальні,
У час абвалу шахт

Забіты быў праходчык Ньета,
Суровы, не любіўшы кветак
Шахцёр, ўдавец другое лета,
Калісьці зух і весяльчак.
Калі асеннім хмурым раннем
Хавалі сябра гарнякі,
Дачцэ яго старэйшай — Фраві —
Было ўсяго, лічы, якіх
Пятнаццаць год.
Сіротам выпаў
Сіроцкі лёс. Усё часцей
Пасля прыдушаных усхліпаў
Перапалоханых дзяцей,
Усё безвыходней, як навала,
Усё трывожней з таго дня
У шахцёрскай хаце навісала
Бязрадасная цішыня.
Тады аднойчы на світанні,
Сабраўшы ў клунак і вядро
Усё шахцёрскае дабро,
З двума малодшымі братамі
(У кішэні некалькі пезет)
Пайшла Франсіска ў белы свет
Шукаць прытулку —
за пасёлкі,
За гушчы восеньскіх імжак...
І лівень сек,
і вецер золкі
Расхрыстваў бацькаўскі пінжак.

Вакзал. Цягнік. Далёкі шлях.

У Мадрыдзе, дзесьці на Альвара,
Радня якаясьці жыла...
Жыла калісьці, толькі зараз
Франсіска цёткі не знайшла.
Дзяўчыну на уласным хлебе
Ўзяла мадыстка («будзе толк!»).
Дзесь пад страхой, на сёмым небе,
Адгарадзілі ёй куток
І не пакінулі хвіліны
Для суму — вечна на нагах.
І хай, бывала, без прычыны,
За нестрыманы ўздых адзіны
Патронша біла па шчаках,—
Быў хлеб уласны у дзяўчыны
І пад асеннім небам дах.
Ішлі гады. Даўно ўжо тройчы
Вясна мінула за вясной,
І вось ураніцы аднойчы
Па-над Сервантэса зямлёй
Праплыў,
Узняты чорным збродам,
Берлінскай ночы жудкі цень:
Крыві іспанскага народа
Спярвятнік хіжы захацеў.
Але з усіх бакоў рашуча
Краўцы, матросы, гарнякі,
Філосафы і пастухі

Насустрач «фюрэру» і «дучэ»
Узнялі гнеўныя штыхі.
Нязломныя адзінаверцы,
Яны пайшлі на процьму зграй
Штыхом,
агнём,
крывёю сэрца
Адстойваць сонечны свой край.

II

У той дзень ізноў,
Мадрыдскіх ўскраін
Перашагнуўшы рубяжы,
Угары прайшлі «фіятаў» зграі,
Як свасцік чорныя крыжы...
...Гурбою вучні йшлі з заняткаў
З лемантарамі у руках,
Малых дзяцей купалі маткі
У эмаліраваных тазах.
Спавітыя ў платанаў зелень,
У вэлюм даўняй цішыні,
Краіны лепшыя музеі —
Славутай гонар старыны,—
Узнёсшы лёгка к высям светлым
Уступы строгіх стромкіх веж,
Бялелі мірна. Ветрык ветлы
Блукаў між сонных лоз-мярэж...
І раптам

Выбух нечуваны,
У шматкі парваўшы цішыню,
Нібы пярун той ураганны,
Усё аглушыў і ўсхамянуў.
І потым новы,
дзесьці блізка,
Над самай дзесьці галавой...
І вось ў паветра з дзікім віскам
Ляціць грамада абеліска,
Афорты Гойя
і калыска,
І жоўты дзёран з нежывой,
Зусім як леташняй, травой.
Амаль губляючы прытомнасць,
Зусім не помнячы сябе,
Не заўважаючы утомы,
Франсіска бегла...
На трубе
Водаправоднай, каля даху,
Угары матляліся шматкі
Знаёмай коўдры.
Кроў ад жаху
Пахаладзела: «Хлапчукі,
Луіс і Педра...»
Столь нібыта
Над ёй хіснулася,
найшла...
Сцяной абрушанай забіты
Ляжаў малодшы ля стала.

І тут жа большы, каля Педра,
Будзіў яго...
«Браты, браты...»
Знадворку, звісшы у паветры,
Два абадраныя драты
У фортку білі як папала...

Тады ж увечары,
калі
Франсіска не знайшла запалак,
Каб лямпу ў хаце запаліць,
Луіс ёй крыкнуў, шапку ўзяўшы:
«Куплю запалак, пачакай!»
І, ў лоб сястру пацалаваўшы,
Ён выбег з хаты.
Хлапчука
Больш і не бачылі. Ні ўночы,
Ні ўранні не вярнуўся ён —
Пайшоў, напэўна, да рабочых
І дапрасіўся ў батальён.
Ён ім адпомсціць, лютым катам
(З ім поруч тысячы ўстаюць!),
За гэты жудкі дзень,
За брата,
За ўсю Іспанію сваю...

Усю ноч праседзела Франсіска
Без слёз ў пустэчы нежылой.
Над дахам хмары беглі нізка,

Над самай беглі галавой.
Ціш спавіла асфальт Алкала,
І толькі недзе там,
                    над ім,
Па стрэхах бляха скрыгатала
Галодным скрогатам сваім.

Калі ж назаўтра гулкім раннем
Па хісткіх сходках «Дома мод»
Узбег Хазэ, каханы Фраві,
Прад выступленнем у паход,
Яна сама была гатова
Туды,
Дзе дол зямлі дымеў.
Ён па вачах яе, без слова,
Як і заўсёды, зразумеў.

III

І з таго часу скрозь нязменна
Па кручах згойсаных дарог
У сініх вопратках ваенных
Плячо ў плячо прайшлі удвох:
Баскопскіх гонар футбалістаў,
Матрос з «Хаіме», весяльчак,
І з ім маленькая мадыстка
З дзіцячым сумам у вачах.
У батальёне ўсе іх знаді:
Далі ж яны панам турбот —

Штодня фашысты праклінаці
Са страхам іхні кулямёт.
Па дымных сцежках Гвадарамы
Да горнай вёскі Сент-Ала
Пад неспакойнымі вятрамі
Іх дружба поруч правяла.
І толькі там, прад самай ноччу,
Атак спыняючы паток,
Зарыўся тварам кулямётчык
У дарожны пыл, ў сухі пясок.
Смерць губы смаглыя скавала,
І толькі па дрыжанню іх
Дзяўчына з жахам прачытала:
«Цяпер змагайся за дваіх.
Няўжо ж паводка куль густая
Не спыніць крок варожых зграй?
Не падпускай іх, залатая,
Трымай, каханая, трымай,
Пакуль сябры назад,
за ўзгорак,
Праб'юцца куляй і штыком,
Пакуль шрапнелі загавораць
Над інтэрвенцкім гарадком!»
І вось, бляднеючы, Франсіска
Крычыць праз гул сама сабе:
«Цяпер, мадрыдская мадыстка,
Усе надзеі на цябе!»
Праставалосая,
Худая,

Яна не чуе даўніх ран.
Да кулямёта прыпадае
Сухой шчакой:
«Но пасаран!
Віва рэспубліка!»
I градам
Свінцовым стрэты ланцугі.
«Віва рэспубліка!»
I радам
Адзін кладзецца за другім.
Яшчэ скупое намаганне —
Прайсці пякельны гэты град.
I з дзікім рыкам ў замяшанні
Лавіна коціцца назад.
Спыні яе рукою спрытнай,
Не дай драпежніку хады,
А не — ён зноўку, ненасытны,
Як пошасць, вернецца сюды.
Хутчэй, хутчэй!
I цэлы пластам
Фашыстаў зноў яе агонь.
Гарачай жылкай
Часта-часта
Пад чорнай пасмай б'ецца скронь.
«Но пасаран!
Не, тут сустрэнецце
Свой час астатні, люты зброд!..»
Але...
Канец апошняй ленце,

І моўкне верны кулямёт.
І пустата, як ноч, глухая
І жудасная цішыня
Франсіску раптам абступае
З усіх бакоў.
    Глядзіць яна:
Патроны выйшлі
                ўсе дашчэнту,
Пустыя гільзы на шляху.
Яшчэ б адну, здаецца, ленту,
Адну б кароткую чаргу.
Пакуль сяброўскіх кулямётаў
З-за скал загутарыць свінец,
Пакуль ўзаўюцца самалёты —
Яшчэ б патрон...
    Але канец.
А ворага ланцуг,
                узняты
Нядобрай гэтай цішынёй,
Зноў наближаецца.
    Гранаты
Ірвуцца дзесь. Пачаўся бой...
Ды толькі смерць спужае хіба?
(Рука, ад зморы не дрыжы!)
Ужо сябры за перагібам
Свае мацуюць рубяжы.
Яны назад ўсё роўна прыйдуць,
І дрогне чорная сцяна.
Ты ўсё зрабіла для Мадрыда,

І зараз не твая віна.
Дарма, што зноў Франко найміты
Лавінай рушаць на цябе.
Шчэ пісталет:

шэсць куль бандытам
І толькі сёмую сабе.
Пакуль лядком не студзіць скроні,
Пакуль ўзнімаецца рука,
Спаткай на славу «макароні» [1],
Мадрыда верная дачка!
І вось, прышчурыўшыся ледзьве,
Яна намацвае курок,
І грузна рушыцца пярэдні
І кіпцямі скрабе пясок.
І зноўку стрэл...

Агнёвай стромай
Глушы драпежніка!

Але
Хвіліна — і з сямі патронаў
Адзін апошні у ствале.
Цяпер хутчэй, марудзіць досыць:
«Хазэ, ты чуеш, мой сакол!
Віва рэспубліка!»

Падносіць
Яна да сэрца чорны ствол.
«Каб два было, я б два без жалю

---

[1] «Макароні» — пагардлівая мянушка італьянскіх інтэрвентаў у Іспаніі.

Жыцці Мадрыду аддала...
Цяпер дарма, што ў дзікім шале
Паводка блізка падышла.
Памерці — шчэ не пакарыцца.
Смялей курок спускай цяпер...

Хутчэй, хутчэй — і подых спынен!..»
Раве пярэдні афіцэр.
З крывёй налітымі вачыма,
Руды, задыханы, цяжкі,
Ён кідаецца да дзяўчыны,
Каб папярэдзіць рух рукі.
«Хутчэй, хутчэй — і подых спынен!..
Хазэ, бывай! Бывай, Мадрыд!
...Але няўжо ён жыць павінен,
Агідны вораг і бандыт?
Не, не.
Агідны смоўж пракляты,
Не пашкадуюць сотні куль
Мне ашуканыя салдаты,
Трымай жа гэтую пакуль!»

І, не зрабіўшы ўперад кроку,
Як бег, шалёным вепруком,
Вялікі, потны, мутнавокі,
Ён грымнуў вобземлю нічком.

IV

Яны пра полк яе пыталі.
Яна маўчала.
Ей тады
Круцілі рукі, жылы рвалі,
Давалі піць, і зноў пыталі,
І зноў падносілі вады.
Яна маўчала, сцяўшы зубы,
Хоць чула — моцы нестае.
...Дык вось чаму імгненнай згубы
Пашкадавалі для яе!
А потым знікла ўсё кудысьці,
Усё правалілася у муць.
Адно запомнілася: ў высі
Хмурынкі лёгкія плывуць.
Адно здалося: кулямёты
Сустрэлі ворага з гары.
І больш ніякія турботы
Не хвалявалі.
...Усе сябры,
Здалося, пелі «По долинам».
Здалося, йшлі ў апошні бой.
Жанчына з поглядам арлінным
Вяла калоны за сабой,
Хістаў штандары подых ўзмор'я,
І над усёй зямлёй адна,
Узняўшы светлае сузор'е,
Плыла зубчатая сцяна.

. . . . . . . . . . .

Зямля мая!
Табе ўсе думы.
Ты ўстала людзям, як маяк.
Цябе інакшай не прыдумаць,
Інакшай не ўявіць ніяк.
І хто б ні быў мой брат па справе
І па крыві гарачай брат:
Арктычны лётчык ў снежнай лаве,
Ці пагранічнік на заставе,
Ці Пятага палка салдат —
Заўжды, зямля,
Праз шал нягоды
У цяжкой няроўнай барацьбе
Табе яго апошні подых
І думка першая — табе.

. . . . . . . . . . .

...Чаму ж няма з Франсіскай поплеч
Яе вясёлага Хазэ?
Вось людзі ў вопратках святочных
Ей рукі ціснуць па чарзе.
І з імі той,
Хто іх ад здзекаў,
Ад мук
прывёў да светлых дзён.
На смуглым твары чалавека
Усмешка цёплая. Вось ён

Таксама моцна націскае
Францыскі дужую руку.
І слёзы шчасця падступаюць
К вачам. Няхай яны цякуць!
Няхай гараць. Цярпела? Годзе!
Ты іх спыні цяпер вазьмі!
Па ўсіх дарогах свету пройдзе
Дзяўчына з гэтымі слязьмі.
Ёй гэтак лёгка...
Твар дзяўчыны
Ледзь уздрыгнуў і прасвятлеў.

З шклянымі мутнымі вачыма,
З расою ліпкай на чале
Яна, замучаная, стыла
Над чорнай згойсанай травой.

Высока хмаркі залатыя
Плылі над самай галавой.

V

У тую ж ноч,
Прад самым ранкам,
Казалі потым патрулі,
Ушасцярых з акопаў Франка
Салдаты хмурыя прыйшлі.
Свае нямецкія вінтоўкі

Яны паклалі прад сабой,
Яны прасіліся, каб зноўку,
Але адсюль, вялі іх ў бой.
Ад іх,
Прапахшых кіслым потам,
Сурова сцяўшых кулакі,
Ад іх даведаліся потым
Рэспубліканскія палкі,
Якою смерцю памірала
За лёс краіны малады
Мадыстка з вуліцы Алкала
Франсіска Ньета,
як тады
Яна бязгучна
ссохлым ротам,
Што ледзь пачула мо трава,
Сказала: «Даларэс» —
і потым
Амаль нячутнае «Масква».

У ганаровым каравуле,
Высока ўстаўшы на гару,
Сябры на зброі прысягнулі
Адпомсціць катам за сястру.
Няхай аб тым іспанскіх ветраў
Раскажа гоман малады,
Як танкі ворага ў паветра
Адменна кідала тады,
Як спраўна падалі на скалы

«Фіятаў» чорныя крыжы,
Як крок за крокам мацавалі
Сябры на захад рубяжы.
Ім не забыць сяброўкі.
Морам,
Бурлівым морам гнеў ўстае.
Матросы, вучні і шахцёры
Спяваюць песню пра яе.
А песню тую, што дарогі
Усёй рэспублікі прайшла,
У лазарэце склаў бязногі
Студэнт Дыега з Сент-Ала.

* * *

Матрос маўчаў. Застылі меддзю
Нацятых сківіц жаўлакі,
І толькі часам ўздрыгваў ледзьве
Пергамент жоўтае шчакі.
Мы моўчкі крочылі.
    На ранак
Ужо займаўся край нябёс.
Над портам грукацелі краны.
З узмор'я свежы брыз прынёс
Чмяліныя матораў гуды,
Пах свежай рыбнае лускі,
І гоман хваль,
І шум глухі...

Не, я ніколі не забуду
Яго шурпатае рукі!
Не пакарыць гвалтоўнай смерці
Іспанскай сонечнай зямлі.
«Буэна,—
крыкнуў я,—
Суэрце!»[1] —
Свайму таварышу.
Плылі
На ветразях лагодных яхты,
Як лебядзіны цуг вясной.
Ангары, фабрыкі і шахты
Стаялі дужыя за мной.
Ўжо днела...
Дзень вялікі, новы,
Я знаў, чаканаю вясной
Устане з кіпені барвовай
Над залатой яго Кардовай,
Як ўстаў над Прэсняю маёй.
Бо над шляхамі ўсіх прастораў
Няўсцяж ад мора і да мора,
Як лёс зямлі,
ўзышла яна,
Узняўшая паходняй зоры,
Крамля зубчатая сцяна.

*1937 г.*

---

[1] Буэна суэрце — шчаслівай дарогі (ісп.).



# Сяргей Крывец

## ДУМКІ

Ночка цёмным пакрывалам
Мне акно завесіла.
У хаце холад (дроў замала).
На душы нявесела.
Мо паесці? Што ж, і трэба,
Думка — не гарэзія.
Сеў, падумаў. (Скуль ўзяць хлеба?)
Эх, жыццё,— паэзія.

Цяжка й дарма. Але веру,
Возьмеш цябе прозаю.
Стаў пісаць (няма паперы) —
Думкі нецвярозыя.
Ёсць кавалак (з сінім штампам).
Стоп. Тут штось знаёмае.
Стаў чытаць (пагасла лямпа).
Справа трыццаць сёмая.
Сліміць дождж. На панадворку
Ноч ў гразі палошчацца.
Закурыць (была б махорка)
Нейк надта хочацца.
Ператрос усе кішэні,—
Ціха, назбіраецца!
Пацягнуў (адны карэнні),
Чад клубком гушкаецца.
Сыплюць думкі, сыплюць мроі —
Іскаркі з-пад крэсіва.
Прыйдзе час (і мы героі),
Ну й гульнём жа весела.

*1936 г.*

## УПАЛІ ПУТЫ

Адзін удар — і ўпалі путы
З грудзей няшчаснае краіны!
І вось закончан шлях пакуты,
Хто жыў астаўся — не загіне.
Сыны працоўнага народа!
Выходзьце з мрочнага падполля!
З чырвоным штандарам са ўсходу
Да нас прыйшла другая доля.
Да нас зляцеў чырвоны вырай,
Ідзём вітаць жаданых птахаў.
Другія ўцешыліся шчыра,
Я ж шчыра першы раз заплакаў.
Мой край, празваны Беларуссю!
Даруй за слабасць, што я плачу,
Бо перадаць яшчэ баюся
Таго, што сёння я пабачыў.
Паноў няма! Няўжо то ява?
Не рыне гончая аблава,
Каб зноў мяне зрабіць нямовай?
Не так даўно, бо толькі ўчора
Магутства іх яшчэ я бачыў.
О, колькі слёз і колькі гора!..
О, колькі лямантаў і плачу!..
Камені трэскалі ад жалю,
Выходзіў Нёман з берагоў...
Нам грудзі помстаю дрыжалі,

А гнеў марозіў ў жылах кроў.
Ды не, не сон перада мною.
Палаюць штандары навокал,
І свеціць ласкай незямною
Майго народа ўзрок глыбокі.

*1939 г.*

## СПАКОН ВЯКОЎ ПЯЕ НАРОД

Ў жыцці ёсць многа злых хвілін.
Ды ў гэты час, у гэту пору
Народных песень і былін
Краса нам служыць за апору.
Бывае так: слабеюць сілы,
Зрок засцілаецца туманам,
І з-за найбліжшага кургана
Павее холадам магілы.
Хіснецца дух. І вось здаецца,
Апошня іскра дагарае,
І толькі з вуснаў шэпт сарвецца:
— Сябры, бывайце!.. паміраю...
А згоніш смагу пеннай брагай —
Ты зноў гатоў, як волат ў схватцы,
З несакрушальнаю адвагай
Ісці у бой, далей змагацца.

І што было б з беларуса,
Хаця б цяпер, у нашу пору,
Каб не цудоўная краса
Яго магутнага фальклору?!

Спакон вякоў пяе народ,
І песні б'юць жывой крыніцай.
Мы плыні тых крыштальных вод
Спяшым з прыемнасцю напіцца.
З грамадскіх сходзячы дарог,
Мы часта йдзём у цень дубровы
Грудзьмі прылегчы на мурог
І чэрпаць з гукаў роднай мовы
Нектар жывога пачуцця —
Па з'явах ў люстры гэтых водаў
Знаходзіць шлях свайго народа
У віры вечнага жыцця.

Спакон вякоў пяе народ,
І песні льюцца, быццам рэкі.
У іх быт прастога чалавека
Адбіўся, быццам небазвод.
Якія ж гамы тут настрояў
Плывуць ў размер народных дум!
То сыплюць краскі ясных мрояў,
То вераснёвы ціхі сум
Ліне на сэрца з паднябесся,
Застыне крыкам жураўлёў,
То з сенажацяў і палёў

Сталёвых кос прарвецца песняй.
Там хмары восені дажджлівай,
Там сонца летняе гарыць,
То льецца золата зары,
Вясны разгульнай і шчаслівай.
Калыша маці свайго сына,
Шчабеча ў садзе салавей,
Над рэчкай журыцца дзяўчына,
Лябёдка заваддзю плыве.
Кукуе сівая зязюля,
Матуля сына выпраўляе,
Нявестка тужыць па матулі
І з буйным ветрам размаўляе.
Сядае плытнік за вячэру,
Памёр чумак здалёк ад хаты,
А недзе б'ецца дзікім зверам
Юнак, закінуты за краты.
Сіротка плача над магілай,
Сумуе дуб сярод палёў;
У кургане спіць герой-асілак
Са знакам чорных мазалёў.
А песні, песні аб прыгоне!
Хто чуў іх раз, той не забудзе,—
Здаецца, стогнуць ўжо не людзі,
А ўся зямля, здаецца, стогне.

Фальклор, фальклор, душа народа!
Люблю размах тваіх шырот,
Люблю парою весваходу

З берагавых тваіх высот
Глядзець, як трэскаюць аковы
На ўлонні роднае ракі.
Здаровы, брацця-мужыкі!
Смялей, смялей, народ вясковы!..

*1942 г.*

## ЭПІГРАМА

На смех курам, на здзекі гусям
Якісьці доктар, сукін сын,
Адсюль заехаўшы ў Берлін,
Малюе карту Беларусі.

*Беласток.*
*10.10.42 г.*



# Аляксей Коршак

## ПАРАНЕНЫ

От і ўсё. За светлы край азёрны,
За вясну ў палёх,
Неба сіняе у кроплях зорных
Я навек тут лёг.

Нада мной шуміць ракіта кволая,
Пада мной трава.
Сыплецца на сэрца невясёлая
Злой тугі жарства.

Бачу неба сіняе і бліҙкае
У астатні раз.
Меншыцца яно, маланкай бліскае,
Пачарнела ўраз.

Дзесьці плача кнігаўка... Ці маці...
Мама, бліжай сядзь.
Хочу глянуць, хоць крыху абняці —
Галавы не ўзняць.

Што ж ты не прытулішся, матуля?
На мяне хоць глянь,—
Гіне сын героем твой ад кулі,
Каб квітнела рань.

Што з табою? Плачаш? З воч блакіту
Цэлы лівень слёз.
. . . . . . . . . . . . . . . .

Я расплюшчыў вочы. Спіць ракіта,
Дождж шуміць між лоз.

Плача кнігаўка ўгары, як маці
Па дачцы ў труне.
Птушанька мая ты, кінь рыдаці,
Не шкадуй мяне.

Я б закрыў навек спакойна вочы,
Каб мой любы край

Больш не ведаў злой пакутнай ночы,
Красаваў, як май,

Каб хадзіў навокал спеў мінорны,
Што я ў бітве лёг
За прыгожы родны край азёрны,
За вясну ў палёх.

*1942 г.*

## ЛАСТАЎКА

Простае, звычайнае здарэнне.
Думы ж! Паспрабуй іх супыні.
З поўным песень радасных бярэмем
Ластаўка мільгнула ў вышыні.

Погляд твой сачыў за ёй: стралою
Жвава праімчалася яна.
Села на вяршку кудлатай хвоі,
Вырасшай ля самага акна.

Ціха пасядзела. Спачывання
Доўга не сцярпела. У вышыню
Успырхнула і ў сінім акіяне
Песні панясла насустрач дню.

Шчасная, ў паветраных абшарах
Весела купалася яна.
Потым знікла ў небе, нібы мара,—
Сіняя ўтапіла вышыня.

Знікнула... Ты поглядам за ёю
Доўга ў далі ясныя плыла.
Сэрца агарнулася тугою
Лёгкаю, як майская імгла.

Мілага, напэўна, вобраз любы
Дум паклікаў сонечны палёт...
Дзе ён, чарнавокі, чарначубы,
Сёння свой кіруе самалёт?

Мо над сенажаццю ці шырокім
Морам зелянеючым тайгі...
Як ляціць ён — нізка ці высока,
Сумны ці вясёлы дарагі?

Пэўна, шлях любімаму далёкі,
Гэткі, як і ў радасным жыцці.
Хутка ці няхутка чарнавокі
Любую пабачыць прыляціць?

Простае, звычайнае здарэнне:
Ластаўка мільгнула — і ўсяго.
Колькі ж незвычайных летуценняў,
Клопатаў і думак ад таго.

*1938 г.*

## ДРЭМЛЕ ЧОВЕН

Дрэмле човен на вадзе азёрнай,
Да крутога берага прынік.
А пад ім, абняты кругам зорным,
Супачыць спыніўся маладзік.

Сінь такая чыстая, прыгожая,
Воблакі вадою аднясло.
Мне цяпер адно спакой трывожыць —
Мокрае кляновае вясло.

Аглядаю поплаў — бачу, бачу
Белую сукенку над травой.
Любая прыходзіла, няйначай,
І плыла над гэтай глыбінёй.

Ад чаго ж пайшла ў садоў пажары,
Дзе спяваюць песні юнакі
І бясконца сыплюцца удары
У барабана гулкія бакі?

Я саджуся ў човен неспакойны,
Дзе яна сядзела, сяду я.
Праплывай жа ты цяпер пад чоўнам,
Глыбіня азёрная мая.

Колькі скрозь нязнаных сэрцу чараў.
Супакой вакол і цішыня...

Пазбіраю сны яе і мары,
Што ў вадзе рассыпала яна.

Я такі на свеце ўжо не першы,
Што плыву і ціха, сам сабе,
На вясле пішу алоўкам вершы
Аб дзяўчыне, сэрцы і журбе.

Ты вярніся зноў, як вечар ляжа,
Вось сюды, на бераг, на сяло.
Пра мяне усё табе раскажа
Спісанае вершамі вясло.

*1939 г.*

## ПРОСТЫ СВЕТ

Зірні перад сабою і пабачыш
Прасторы неабдымныя, як мора,
І колераў яснейшых разнастайнасць —
Зялёную зямлю, і неба сінь,
Магутныя, шырокія прасторы,
Што дыхаюць размахамі жывымі
Адвечнай маладосці і жыцця.
Яны травою леглі прад табою,
Яны — сасновым лесам каля поля,

Яны — ракой сінеючаю збоку,
Яны — вясновым шэлестам навокал
І птушкамі і небам над табою.
І ты, жыхар у гэтым простым свеце,
Блукаеш, поўны гэтым навакольным,
І слухаеш травы шурпатай шорах,
Журчанне рэчак, звон вішнёвай пены,
І назіраеш, як увечар зоры
На небавым блакіце усплываюць,
Як раніцай яны ў бяздонні тонуць.
І бачыш ты, як пралятаюць птушкі,
Губляючы з-пад крылляў крыкі ўніз,
Як на балоце ў стоме нерухомай
Застылі хвалі маладых алешын.
Блукаеш ты. І ў гэтым простым свеце,
Дзе лішняе няма ніводнай зоркі,
Ці лішняе травінкі, або зыку,
У гэтым свеце, тут, тваё жыццё,
Тваё натхненне, мар тваіх крыніцы
І маладосці радаснае дом.
Аб ім адно падумаеш, і ў сэрца
Пальецца радасць ясная й багацце
Пачуццяў поўных, як у лузе рэкі,
І яркіх, як маланкавае ззянне,
І разнастайных, быццам бы вясёлка,
Ірдзеючая колерамі ўсімі
Над свежаю зямлёю.
Нейкі голас
На вуха шэпча ціха мне: «Ідзі,

Чакае свет цябе ў цішы вячэрняй,
У громе дня, бязмернасці стэповай,
У свежасці азёрнай і крынічнай.
Ідзі у гэты свет!»
І я іду,
Вясёлая і сутная істота,
І кожны зык і песню, што губляюць
З-пад неба птушкі, паднімаю я
І ў сэрца іх запісваю навечна...

*1939 г.*

* * *

Захоча сэрца смеху чалавека,
Ягоных слоў і поціску рукі,
І кідаю тады я шум дуброўны,
Іду ў натоўп вясёлы, мнагатвары,
Шматвокі і няспынны. Між людзей
Блукаю я, гляджу ў чужыя вочы
І бачу сэрцы, поўныя вясною,
Чытаю ўсмешкі іх і бачу — шчасце
Пад руку з чалавекам крочыць скрозь.
Яго я пазнаю, яно такое ж,
Як ты і я, як нашае сяброўства,
Як наш вялікі непаўторны край.

Па ім хачу ісці з празрыстай песняй,
Адкрыўшы грудзі ветру і вясне.
О, колькі рук я з радасцю пацісну!
О, колькіх плеч крануўся я плячыма!
О, ў колькі воч я шчыра заглядаў!
І колькі слоў пачуў, як зоры, ясных!
З такім вялікім шчасцем добра жыць!
. . . . . . . . . . . . . . . .

Дзе хіліцца ў расхінутай даліне
Зялёных вербаў радасны прыбой,
Жывуць сябры мае у новых хатах
З адчыненымі вокнамі ў вясну.
З іх выплываюць песні, нібы птушкі,
Пад воблакі сівыя узлятаюць
І падаюць адтуль уніз, у лес,
Дзе разбівае іх на тысячы кускоў
Дуброўскае зайздрослівае рэха.
Бяру я песні гэтыя, як кветкі,
І крочу з імі проста па вясне,
Крычу прасторам, травам, зорам, людзям:
— Люблю я вас! Люблю!

*1940 г.*

## МАКСІМ БАГДАНОВІЧ

Б'ецца мора аб бераг дзікае,
Пер'е пены губляе скрозь.
Зноў з тугою, як свет, вялікаю
Ён прыйшоў сюды з краю кроз.

Кіпарысы вакол, як волаты,
Вецер гне іх і не сагне.
Кінься ўдалеч, і стрэнеш волю ты
Ці на хвалях, ці мо на дне.

Блудзіць погляд жывымі далямі...
Што там бліснула на скале?
Белы ветразь мільгнуў між хвалямі
І у пеннай растаў імгле.

Можа, гэта Страціму-лебедзю
Расставанне з жыццём прыйшло?
Ці патала ў сухотах з'едзенай
Маладосці твае крыло?

З дарагімі юнацтва рысамі
Адыходзіць яна без слёз...
Вузкаплечымі кіпарысамі,
Здаецца, свет тут увесь зарос.

А далёка, дзе край азёрамі
Заглядзеўся у неба сінь,

Ночы сыплюць густымі зорамі,
Ветры сцелюць лісцё асін.

Скарга, лепшую долю хвалячы,
Высцілае прастораў гладзь.
Трэба, трэба у тыя далечы
Песню славы, як гром, паслаць.

Б'ецца мора аб бераг дзікае.
Дык тугу ад сябе гані,
Хай палаюць ярчэй вялікія
Залатыя жыцця агні.

Несучы у душы узрушанай
Мора сіняга грозны гнеў,
Ён прыбег у пакой, аглушаны,
Ён за столік з паперай сеў.

І калі ён, ад кашлю стомлены,
Адышоў ад гарачых слоў,
На паперы гарэлі полымем
Палкі верш і жывая кроў.

*1940 г.*

## ГАРАЧЫНЬ

Гарачынь, як у пекле...
Над засмяглымі травамі
Бачаць вочы адну толькі вялую сінь.
Без ніводнай хмурынкі неба томіцца мляваe,
Смаліць сонца, астаткі адбіраючы сіл.
Хоць бы ценю якога...
Хіба дыхаць тут можна?!
Пачарнелыя вусны хоць бы ў кроплі змачыць!..
На густых сенажацях, на іступках дарожных —
Скрозь
прылеглі
вандроўцы
спачыць.
Гэты, землю абняўшы, быццам сябра сустрэчнага,
Гэты, з неба не зводзячы воч застылы блакіт,—
Так спачылі на хвілю...
Што кажу я? —
Навечна.
Чуеш, сэрца? Навечна. Скуль жа холад такі?
Быццам дроў навалена...
Глянь, і жудасна стане...
Па-над імі ці ў сонцы, ці ў слязінах дажджу
Скора ўстануць курганы, і на кожным кургане,
Быццам яблыню, песню сваю пасаджу.

*Чэрвень 1941 г.*

* * *

Часам зморыцца думка ад грымотаў і бітваў,
Ад крыві чалавечай, што навокал праліта.
Стукне сэрца ў грудзёх так: цішыні б і спакою,
Як у вечар ліпнёвы над азёрнай вадою.

І паўстануць у думках — і каханае вочы,
І спатканні й расстанні ў салаўіныя ночы,
І юнацкія мары, і гарэзныя ўсмешкі,
І да самага сонца залацістыя сцежкі.

Ні дратоў, ні кайданаў, і прыяцелем кажны...
Смерць блукае далёка дзесь за годаў гарою,
І ад думкі, што гэта ўсё цяпер недасяжна,
Быццам студня вадою, сэрца поўна нудою.

*1943 г.*



## Алесь Мілюць

### БРАТУ

Ты будзь, брат, верны да канца
Сваёй зямлі, свайму Народу,
Што стогне з гора год ад году.
Ты будзь, брат, верны да канца...

Хоць мы спаткаем шмат нягодаў,—
Май дух адважнага байца!
Ты будзь, брат, верны да канца
Сваёй зямлі, свайму Народу!

*1930 г.*

# ЯНЫ

Запыталіся ў іх, хто такія яны
І чаму тут марнуюць жыццё без пары?
«Мы — саломеных стрэх, бедных вёсак сыны,
Мы — байцы за народ, мы — жыцця змагары!»

Папыталіся ў іх, за што з роднай зямлі
Іх сагналі сюды на нямала гадоў?
«Мы за Волю, за Праўду святую ішлі,
Мы сталі за долю гаротных братоў!»

Папыталіся ў іх, што ім трэба было?
Што хацелі яны, што імкнуліся ўзяць?
«Мы хацелі, каб ў свеце загінула зло,
Каб самім нам над скарбам сваім панаваць!»

Папыталіся ў іх, што ім будзе пасля?
Які лёс іх спаткае у прышласці дзён?
«Хай пагінем усе... нас прытуліць зямля,
Кінуць людзі за кроў нашу катам праклён.
Будуць помніць і помсціць за нас!» —
Такі быў іх на гэта адказ.

*1930 г.*

## НАПРАДВЕСНІ

Нехта бразнуў сталёваю песняй,
Звонка сыпнуўшы іскрамі словы,
Каб з ружовай зарою прадвесня
Прабудзіць нашы нівы, дубровы.

Нехта дужы, і смелы, і горды
Расчасаў на загонах чупрыны,
І запелі шчаслівым акордам
Стрэхі хат і дарог каляіны.

Нехта глянуў у цьмяныя шыбы
Залатою вяснянай касуляй,
Так ласкава глядзіць толькі хіба
На дзяцей дарагая матуля.

Нехта бразнуў сталёваю песняй,
Звонка сыпнуўшы іскрамі словы,
Каб з ружовай зарою прадвесня
Кожны з нас быў да працы гатовы.

*1939 г.*



# Алесь Пруднікаў

* * *

Ноч глухая...
Цярушыцца снег.
Затапляецца ў зарыве горад.
Месяц плечы кастлявыя гне —
Падымаецца ціха угору.

Я стаю.
Доўга думаю я...

І не верыцца нават самому,
Што мяне ўзгадавала зямля
Каля гумен, прапахлых саломай.

Дзесьці крокі рыфмуе цягнік...
Гул губляецца
У шпаркім разбезе...
. . . . . . . . . . . . . . .

Зацвітае ў маёй крыві
Маладая пара паэзіі.

Ноч прайшла.
Пачынаецца дзень.
Свечкі зор патухаюць, бы ў моры...
...Ты сустрэўся сягоння мне
Невыказнаю радасцю, горад.

*1930 г.*

## ЗВІНЯЦЬ АБШАРЫ

Восень звонкая — звіняць абшары,
Павуціны сцелюцца па полю...
Манеўруюць качкі у надхмар'і
Над празрыстым люстрам вадапою.

Я стаю. У садзе дрэвы зябнуць.
Думы рвуцца ў палявую цемень...
Асыпаецца лістота з яблынь
На палёў абстрыжанае цемя.
Не шкадую згубленай красы іх,
Не сумую больш па іх увечар.
Зразумеў, што на прасторах сініх
Шлях другі пракожан чалавекам.
Пачакай, асенняя сцюдзёнасць!
На сцяжынцы, маем утрамбованай,
Мяне стрэне, юны і бадзёры,
Дзень вясенні, ў зелень
афарбованы...
І я знаю — рань зямнога раю
Зноў сады ахутае лістотай.
Вось таму і ласкава прымаю
Стынь асенняй дзіўнай пазалоты.
Я пайду на шторм свайго імкнення,
У страі тварцоў да мэты мчацца,
Каб тварыць другому пакаленню
На зямлі маёй зямное шчасце!

*1931 г.*

## АБРАБАВАНЫ СТРОНГ

Гэта было на ваенным парадзе.
Горад грымеў. Хваляванні. Рух...
Стронг не бунтуе... Ён любіць
парадак...
Ён верыць Вільямсу — гаспадару.
Вось ён выходзіць вясёлым з аўто
З верай у поспехі шахтаў, Вільямс,
І па-акцёрску вітае натоўп.
І цешыцца раннем яго сям'я.
Ён Стронга рукой па плячу пахлопаў:
— Ты кроўны ангелец, Стронг!
Я помню, калі выпраўлялі ў акопы
Цябе на германскі фронт:
Дзень быў зялёны...
І лэдзі вам слалі
Свае пацалункі з букетамі руж...
Ішоў ты без імя...
Вярнуўся са славай
З-за даляў Ламанша пад маршы
труб!
Якая ўцеха! Я многа павінен...
Бо ты пераможцам прыйшоў у Брад-Форд
І зноўку вугольныя крышыш
цвярдыні.
Геройскі імпэт
І брытанскі форс!

Усе акіяны разлінены плаваннем,
Рэйсам увязаны ў вузел парты.
У сусветных затоках,
у бухтах і гаванях
Вугалем нашым жывуць флаты.
Спяём жа з табою мы славу
вітальную
Нашай блакітнай краіне цуд!
Брытанец ніколі не здрадзіць
Брытаніі,
Як спрытнасць спартсмену, як рукі
плыўцу.
...Гэта было на ваенным парадзе...
Стронг ў захапленні.
Ён верыць, што:
Брытанец брытанцу нізашта
не здрадзіць,
І можна падняць за Вільямса тост,
І можна прайсці адвячоркам
па травах,
І лёгка дыхнуць і забыць на тугу,—
Вільямс не пакрыўдзіць...
У чым жа справа?
А справа ў тым, што гады бягуць.
Глухім запусценнем на банкі
лажацца,
І голад на шыю кладзе пятлю,
І Стронг не патрэбен цяпер
у шахце,

Як вугаль патопленаму караблю.
Ён доўга блукаў па плацах-
праспектах,
Стамляліся ногі... Куды ісці?
І ў думках вярзлося, як быццам
ён скептык,
Не бачыць жыцця ў жыцці.
— Што ж мне — павесіцца?
Выпіць атруты?
Кінуцца з даху у бездань-шлюз?
А вы балявацьмеце, паны,
над трупам
З віватамі вугальнаму каралю,
У штрэках якога
жыццё я пакінуў?
Згарэўшых у топках за дваццаць год,
Там русасць валос маіх выбеліў іней,
Там стан мой сагнуўся у крук дугой...
А ты захаваўся, Вільямс, не чуеш?
Я горкую праўду хачу сказаць:
Ты абакраў мяне!
Я патрабую —
Вярнуць мне жыццё назад!
Не зможаш? Я знаю цябе, сабака!
Схаваўся за шторы сваёй хлусні!
Твой Стронг пасівелы
не ўмее плакаць,
Маліцца зладзею,
падаць ніц.

Няхай я галодным пайду
з кастылямі
І з раненых ног няхай выступіць
кроў,—
Я скіну адвечнага рабства лямку
На тлустыя шыі багатыроў!
Мой прадзед — жабрак старасвецкі,
Я ж быў таварам жывым
свой век...
І ўрэшце народзіцца,
сонцу ўсміхнецца
У муках няволі
мой сын — чалавек!

*1932 г.*



# Уладзімір Рагуцкі

## 17 ВЕРАСНЯ

Каліны схіляліся нізка,
І плакаў засмучаны гай.
Матуля ў журбе над калыскай
Спявала:
— Ой, баюшкі, бай!
Ты станеш на ногі, саколік,
А долі не знойдзеш нідзе,
І спевам птушыным ніколі
Цябе не парадуе дзень.

Яшчэ ад маленства да смерці
Зазнаеш нямала прынук,—
На панскіх абшарах прыйдзецца
Згінацца за працай у крук.
А сцежкі-шляхі да навукі
Для нас зараслі палыном...—
І раптам —
на вуліцы грукат.
Матуля зірнула ў акно.
Грымелі магутныя танкі —
Чырвоныя войскі ішлі,—
На новы матыў калыханку
У бедную хату няслі.

*1939 г.*

## ХВОЯ

Цябе любіць ранак золкі,
Любіць ясная зара;
Пасля дождзыка вясёлка
Абнімае, як сястра.

І, як вечарам паволі
Ахіне прастор імжа,
На тваім шырокім голлі
Зоры спелыя дрыжаць.

І стаіш ты, ані дбаеш,
Над глыбокаю ракой,
У люстэрка пазіраеш,
Умываешся расой.

Рэюць песні над табою,
Спеюць ягады вакол,
Але заўтра, раніцою,
Ты павалішся на дол.

А як скоцішся з абрыву,
Я скажу:
— Шчаслівы пуць!
За табою над вадою
Мае мары паплывуць.

Па імклівых водах нашых
Будзе шлях твой да пары:
Мае мары разгадаўшы,
Спыняць дзесь цябе сябры.

Змерань поглядам любоўным...
І тады — у іх руках —
Станеш скрыпкаю цудоўнай,
Небывалай у вяках.

Для прыгожай гордай мэты
Зберагуць цябе як след,—
І на конкурсе сусветным
Здзівіш музыкаю свет.

Будзе дзень вялікі гушкаць
Тваю песню на руках.
Запяюць чароўна птушкі
Пад узмахамі смычка.

Нават пушчы загамоняць,
Зашумяць на ўсе лады.
Гучна ў яблыкі зазвоніць
Сад багаты, малады.

Будзе сэрца калыхацца
На высокіх хвалях струн.
Акрыляе гром авацый
Славы нашае зару.

*1940 г.*



# Мікола Сямашка

## З ВЕРШАЎ АБ РАДЗІМЕ

Багаццем паўнаводных рэк,
Прасторамі стэпоў і гор,
Агнём (яму не дагарэць)
Заманлівых вячэрніх зор;

Вясновым гулам буйных вод,
Узнятай песняй над зямлёй,
Усмешкай шчырай і жывой
Дзяўчыны любае маёй,—

Я гэтым шчасны, гэтым рад,
Жыццю — у пояс мой паклон.
Я гордым стаў, бо я багат
Нясходжанай сваёй зямлёй.

Прыслухайся: гудзе яна
Кіпучай сілай маладой,
Дыміцца на ўзбярэжжы дня
Густым туманам над вадой.

Разносяць спелыя палі
Мядовы пах каля прысад,
Сады высока узраслі
Каля калгасных новых хат.

І ва усе яе бакі,
Ва ўсе канцы маёй зямлі
Спяшаць-імчацца цягнікі,
Плывуць па рэках караблі.

Таму увечар, ў час начны
Гадзінамі не сплю, падчас,—
Палёў дыханне, шум лясны,
Узняты, я іду страчаць.

І сэрца стукае мацней
Тады,
Мацней і гарачэй...

Здаецца: шчасця да мяне
Ніхто не адчуваў яшчэ.

*1936 г.*

## ЧЫРВОНАЯ ЗОРКА

І на прывале, і ў паходах,
І днём, і ранкам на зары
Са мной яна, на мне заўсёды
Агнём рубінавым гарыць.

Устане дзень — жывы, вясновы, —
І сонца промень залаты
Сальецца з ёй, пяціканцовай,
У малюнак дзіўнай яснаты.

А ў вечаровы час лагодны,
Пад дымкай цёплае зары,
Адлюстраваны край свой родны
У ёй бачу я: лясы, бары,

Азёр блакітнасць залатую
І шыр бяскрайнюю палёў.
Радзіму бачу, за якую
У смяротны бой ісці гатоў.

*1937 г.*

## ДЗЯВОЧАЯ

За ракою — луг някошаны
І прасторы спелых ніў.
За ракою той — харошы мой,
Весялун і гарманіст.

Чую днём спакойны ляскат я:
Водзіць трактар за ракой
Самы лепшы, самы ласкавы,
Яснавокі сокал мой.

А як зоры тыя спелыя
Згубіць вечар малады,
Кліча любы песняй смелаю
Пад гармоніка лады.

Як дайсці? На мост — не хочацца
Гэткі круг дарма даваць,
За раку ж так сэрца просіцца...
Нацянькі — рукой падаць.

Не адолею я гэтага:
Ці мне цешыцца, ці не,
Што люблю яго, зарэчнага,
Што далёка ад мяне?

Ну, няхай. Не так шырокая
Рэчка з бегам ціхіх вод,—
Адшукаю неглыбокае,
Перайду рачулку ўброд.

*1937 г. Полацк.*



## Рыгор Суніца

### РЫТМАКАПЫТАМУ ДРУГУ

О конь, прад табою
бязмоцны паэты,
Не скласці ім песню
такую, як ты:
Бяжыш, і па бруку
чаканяць манеты,
Віхорныя маршы
грымяць капыты.

Ударыш аб камень,
і — пырскамі іскры,
Бы сноп метэораў,
пасыплюцца ў змрок,—
Хоць з сэрца паэта
рамантыку выскраб,
А п'е, як віно,
твой імклісты крок.

Як зорнаю ноччу,
упіцца ім хоча,
З глыбінямі неба
у сэрца уліць,
Каб сінімі сталі
збялеўшыя вочы,
Каб даўнія рытмы
ў душы абудзіць.

І ловіць ён бег твой,
як подых вясновы,
Хапае рукамі,
як казку, як сон...
О конь, перазвоны
сталёвых падковаў
Дарожай яму,
чымся золата звон.

Ён помніць даўно
прамінуўшыя хвілі,

Той час, адзвінеўшы
ў мінулае ўгрунь,
Калі твае ногі
вымервалі мілі
Пад музыку волава
ветравых струн.

Было: пад уздрыгі
гарматных грымотаў,—
Імжылася кроў
на зялёны мурог,—
Ты бёг праз палі
і скрываўленым потам
Жывіў чалавека,
што к шыі прылёг...

Уздагонку гадзюкамі
сыкалі кулі,
Звінелі напевам —
зім-зум... цэ-цэ-цэ...
Усё ж лірыка смерці
цябе не кранула,
Твой бег даімчаў цябе
к сіняй рацэ.

Спявалі аб смерці
халодныя хвалі,
І пыркі, як скаргі,
ляцелі на бераг,

І вербы згіналіся
з болем і жалем
Ад скаргаў халодных,
тых скаргаў бязмерных...

Ты стаў ля вады
і пачуў, як шапталі
Збялелыя вусны
падзяку, як другу...
Паранены друг твой,
таварыш Галя
Зубамі ірвала
тугую падпругу.

І волю пачуў ты,
і радасным крыкам
Хацеў да жыцця
абудзіць прасторы.
О, конь!.. Не збылося...
Як войстрая піка,
Працяў цябе стогн
ад бяскрайняга гора.

Хвалі халодныя
дыхалі смерцю,—
Шмат тут герояў
магілу спаткала,—
Раны абмыла ў іх
любая Галя,

І... затрымцела
гарачае сэрца.

Страшкімі сталі
грымоты гарматаў.
Страшна, што сонейка
засціла дымам,
Страшна, што позна ўжо
несці адплату
За кроў і за раны...
Так марна гіне!

Вочы згаслі.
І... згасла сонца!..
Так бо здалося табе,
о конь мой.
Любы таварыш
быў дораг бясконца.
У роспачы біў ты
зямлю падковай.

У роспачы гнуліся
нізка вербы,
Пыркамі плакалі
сінія хвалі,
Скаліўся вечар
чырвонымі шчэрбамі,
Як паміралa
на беразе Галя...

А за узгоркам
    сціхала бойка,
Чулася: грае
    апошнім акордам;
Кавэскадрон
    біўся з ворагам стойка,
Непераможнай
    адвагаю горды.

Гэтак было.
    А ці ж так не будзе?
Конь, ты у новую
    бойку гатовы?
Ты пастарэў,
    але дужы у грудзях,
І на капытах
    не збіты падковы.

І прад табой —
    не бязмоцны паэта,—
Бачыў, склаў песню
    такую, як ты:
Бяжыш, і твой бег
    расцвітае санетам,
І маршам паходным
    звіняць капыты!

*1930 г.*



# Мікола Сурначоў

* * *

Штодзень вялі мяне шляхі
З краю ў край жаданы,
Ад старай дзедаўскай страхі
Да мазанак гліняных,

Ад зацвітаўшых паплавоў
Да выкашаных ніваў,—
І ўсюды я, як свой, ішоў,
Вясёлы і шчаслівы.

То я на Волзе з-пад вясла
Раскідваў смех дзяўчы,
То мне Кахетыя нясла
Віно і мёд ахвоча.

Дзе вінаград да глебы звіс
І шэпча таямніча,
Нясла мне, хвораму, кумыс
Чарнявая калмычка.

То на уральскі краявід
Не мог я надзівіцца,
То плакала прад мной наўзрыд
Палтаўская крыніца.

Казачка цёплым каймаком
Гасцінна частавала,
Бялюткі расчыняла дом,
Як сына, абдымала.

І толькі б дзе ні ваяваў,
Дзе б ні ляжаў ў траншэі,
Такіх, як на радзіме, траў,
Такіх густых завеяў,

Такіх світанняў і крыніц,
Крутых віроў, налопак,
Такіх, як нашы, зараніц,
Як на Сажы, сасонак,—

Я не знайшоў, як ні хацеў
Знайсці ў другой мясціне,
І доўга мой акопны спеў
Журыўся па айчыне.

*1-ы Беларускі фронт.*

* * *

Старонка мая, у смутку
Ты сына свайго не кляні!
Мне ў кожным лясным закутку
Сняцца твае кляны,
Хваёвыя пералескі,
Кветак мядзвяны пах,
Узняўшыя снег пралескі
Як зараз стаяць у вачах.

Ці ноччу лаўлю над гаем
Мігценне высокіх зор,
Ці звонка ўвесь дзень махаю
Касой — аж гамоніць бор,
Ці трактарам ля узрэчча
Тарфянікі варушу,
Ці песняй прыйсці на сустрэчу
Дзяўчынку сваю прашу...—

Старонка мая, з дакорам
Ты сына свайго не кляні!
Мы пройдзем любімым борам,
Здабудзем твае кляны,
Хваёвыя пералескі,
Кветак мядзвяны пах.
Узняўшыя снег пралескі
Усцелюць прад намі шлях.

*1941 год.*
*Бранскі фронт.*

## ПАШТОЎКА

Калі змаўкаюць мінамёты
І цішыня атуліць лог,
Я дастаю паштоўку, што ты
Прыслала з бацькаўскіх дарог.

Размыта ўся дажджамі марка,
Злінялі словы ад вады,
Але ж у слове кожным ярка
Цябе я бачу праз гады.

Вось ты праходзіш полем роўным,
І аддае табе паклон

Высокі, вечна непакойны,
Зялёны прыдарожны клён.

Ты па зямлі асірацелай,
На папялішчах родных сёл
Ідзеш-брыдзеш хадой нясмелай,
І слёзы сыплюцца на дол.

Але я зараз добра знаю:
Мы вернем край свой у баю.
Таму штодня сябрам чытаю
Паштоўку бляклую тваю.

*1941 год.*
*Бранскі фронт.*

## У СТОПТАНЫМ ЖЫЦЕ

Ніколі не ехаць
Хлапцу маладому
Да блізкага гаю,
Да роднага дому.

Над ім асыпаюцца
Слуцкія краскі,
Абсмалены колас
Схіліўся да каскі.

Ляжыць ён, як віцязь,
У стоптаным жыце.
Маці спаткаеце —
Ёй не кажыце...

*1941 год.*
*Заходні фронт.*

## СЛОВА ПОМСТЫ

Ты стаптаў нашчэнт мае сады,
Папаліў, развеяў гарады,
Наша шчасце — наш калгасны дом
Затапіў ты горкім палыном.

Я табе спакою, гад, не дам,—
Чорнай кроўю ты адкажаш нам!

Ты маю зямлю асіраціў,—
Пакляваў зярняты нашых ніў,
Патравіў пракосы нашых траў,
Ты маю сям'ю ў палон забраў.

Я табе спакою, гад, не дам,—
Кроўю сэрца ты адкажаш нам!

Ты хацеў, каб для гайні тваёй
Хлеб радзіў і гай звінеў пчалой,
Білі рыбай рэкі ў берагі,
Сенажаці скláліся ў стагі...

Я табе спакою, гад, не дам,—
Сваім прахам ты адкажаш нам!

Ты жадаў, каб пёк табе пірог,
Тваіх гладкіх бугаёў бярог,
Каб аддаў усё табе, што меў,
І хадзіў закуты у ярме.

Я табе спакою, гад, не дам,—
Чорнай кроўю ты адкажаш нам!

*1942 год.*

## ПРЫСЯГА Ў АКОПАХ

Радзіма!
Далёкія нівы без краю
І ластавак гнёзды над хаткай маёй...
Не знаю, калі цябе зноўку спаткаю,
Калі я тваёю прайду ярынoй.
А толькі гадаць нам

Аб гэтым не трэба,
Не час...
Паглядзі, па-над Волгаю дым.
Гарматнымі громамі поўніцца неба,
І бомбы равуць над акопам маім.
Няхай жа лютуе варожая зграя
І бомбамі рвецца дыван ціхіх траў,—
Я губы ад гневу калёнага сцяў
І сэрцам, Радзіма, табе прысягаю.

У стэпе палынным,
У небе крылатым
Мы будзем знішчаць іх няшчадней і злей,
Каб сцежкі-дарожкі да роднае хаты
Ніколі ў жыцці не знайшоў
Ліхадзей.

*1942 год.*
*Данскі фронт.*

## НОВЫ МОСТ

Як калісь, гонячыся хваляй
За параходамі наўсцяж,
Ізноў ты, вецер, з сіняй далі
Палошчаш апусцелы пляж.

Кідаешся, як вал, на піхты,
На залатыя каштаны.
Не гні дадолу ў гневе іх ты,
Хай дачакаюцца вясны.

Вясна цяпер не за гарамі,—
Ты бачыш, за Днянро, наўпрост,
Шляхі пракладваем штыкамі
І пад агнём наводзім мост.

Той мост лёг на маю Радзіму,
І чую, бачу я праз стэп,
Як каласіцца шнур азімых,
Як налівае важкі хлеб.

*1943 год.*

*4-ы Украінскі фронт.*

## ЛІСТ ДА МАЦІ

Ля хаціны тваёй сасновай
Скрозь байцы ў шынялях, бушлатах.
Маці!
Стрэнь іх там добрым словам,
Пачастуй, чым наш край багаты.

Ведай, родная маці,—
Дзеці
Пакідаюць свае дубровы,
Сенам пахнучыя павеці,
Водар пасек сваіх ліпнёвых,
Недаспелую канюшыну,
І жыты, як чарот, густыя,
І адзіную ў свеце дзяўчыну,
І юнацтва сны залатыя.

Можа стацца,
Ад кулі злое
Злягуць многія ў час атакі,
На акопах і буераках
Адцвіце іх жыццё маладое.

Ты прыкрый іх павекі,
Мятай
Усцялі іх магілы-курганы
І паплач, як над сынам чаканым,
Майскай раніцай сіняватай.

*1943 год.*

*Запарожжа.*

## РАЗДУМ'Е

І цішыня, і стогн глухі,
І сэрца ачарсцвела быццам,
І хочацца на грунт сухі,
Нібы на ложак, апусціцца.

Мацнее бой, і ты з штыком
Ідзеш наўпрост да перамогі,
І, можа быць, сустрэне дом
Пасля вайны зусім нямногіх.

І можа я, як ветэран,
Паду на жоўклыя пракосы,
І да маіх гаручых ран
Нахіляцца спагадныя лозы.

Не гэта нас турбуе! Што ж? —
Без перамогі свет не мілы.
Калі не я, жыць будзе ўсё ж
Зямля, што нас з табой расціла.

*4-ы Украінскі фронт.*

## СМАГА

Іншы раз брыдзеш сваёй пуцінай,
Перасохне ў горле — проста страх,
І, здаецца, хоць прайшла б жанчына
З вёдрамі паўнюткімі ў руках.

Ледзь падумаў — як з вачэй дрымота
Адлятае, ў сэрцы халадок,
Дзе падзенецца тады спякота,—
Мераеш ізноў за крокам крок.

Так і сёння, як іду ў атаку,
Аж гарыць зямелька пада мной.
Ўспомню, краю, пра цябе, дружака,
І тады ахвотней мкнуся ў бой.

Так, магчыма, пройдзе колькі сутак,
І глядзіш — на бацькаўскай зямлі
Знойдзем той з крынічынай закутак,
Дзе зноў зможам смагу наталіць.

*1943 год.*

* * *

Стаю над попелам хаціны,
Пілотку зняўшы з галавы.
Сяло ў жалезнай павуціне,
А ў сінім небе журавы.

А ў сэрцы?
Хіба ў сэрца глянеш,
Як у крыніцу ля сяла?
Маўчаць, стуліўшыся, сяляне;
Дзе вёска некалі была —
Дым рассцілаецца атрутны,
Агонь грызе галлё ракіт...

А сэрца?
Сэрца ў гневе лютым!
А ў сінім небе?
Ястрабкі.

*1944 год.*

## ЧЫРВОНАЯ ЗОРКА

Пакручаныя рэйкі,
Шпал абгаркі,
Дакураныя жоўтыя цыгаркі,
Шматкі лістоў, ледзь-ледзь недапісаных,—
Салдацкія пасланні да каханых.
Ад він бутэлькі,
Ад кансерваў банкі,
Знявечаныя бомбамі паўстанкі,
Гудкі надрыўныя цярплівых машыністаў,
Магілы бежанцаў пад спелым лістам.
У акопе часта, седзячы ў завею,
Я гадаваў цярплівую надзею,
Што прынясу спакой ў паходным ранцы
Да вас,
Пакінутых ў няволі станцый,
Да зорак тых,
Што падбіраў ў крыніцах,
Да зведаўшых выгнанне маладзіцаў,
Да ліп мядовых і вішнёвых вёсак,
Да Свіслачы і раненых бярозак.
Я ў Мінск прыйшоў.
Хілюся на калені
Прад горадам, што дачакаў збаўлення,

Услаўце ж зорку, зорку вызвалення!
Бо доўга-доўга будзе зорка гэта

Ісці па заняволенаму свету.
Дзе зорка гляне — там зардзее ранне.

*Мінск, 1944 год.*

## СОН

Мне сёння сніліся суніцы,
Сцяжынка праз густы хмызняк
І дзераза, што хутка віцца
Пачне ў імхах і так і сяк.

І луг мурожны, і прысады
Вакол варшаўскае шашы
Шапталі мне: «Цябе мы рады
Сустрэць ад шчырае душы».

І так заўжды перад вачыма:
Густы хмызняк, разбег дарог...
Такою я цябе, Радзіма,
У дні суровыя збярог.

*1944 год.*
*Румынія.*



# Андрэй Ушакоў

## МНОГАМУ ІМ ТЫ У ЖЫЦЦІ АБАВЯЗАН

Ля дарогі узняўся высокі курган,
Ён горда глядзіць на жыты і пожні.
Перад брацкай магілаю партызан
Спыніся і шапку здымі, падарожны!

Навекі, як вобраз бацькоў сваіх,
Імёны іх прачытай і запомні.
Ты пройдзеш па полі, па сцежках лясных,
Праз ціхі вечар і ясныя промні.

Каб даць спакой здранцвелым нагам,
Прысядзеш спачыць у цяньку пад вязам.
І, можа, будзе зусім няўцям,
Як многаму ім ты ў жыцці абавязан!

*1935 г.*

## НА ІМПЕРЫЯЛІСТЫЧНАЙ ВАЙНЕ

Надвячэрняя ціш у акопах,
Тонкай дымкай пакрыты абшар.
Два салдаты па воўчых тропах
Прабіраюцца ў ціхі яр.

Азіраючыся з апаскай,
Прывіталіся поціскам рук.
І садзяцца на змятыя краскі
Пад стагодні, кроністы бук.

Рускі немца частуе махоркай,
Немец рускага — хлебам сухім.
І пачынаецца разам гаворка,
Зразумелая толькі ім,—

Па мазолях на жорсткіх далонях
(След батрацтва ў чужым двары),

Па жыццю, што бязлітасна скроні
Замарозіла без пары;

Па скалечанай маладосці
Пазнаюць па класу братоў
І рашуча гавораць:
— Досыць
Праліваць маладую кроў!
Годзе, братка!
Паваявалі
За багацце другіх, за медалі,
За асінавыя крыжы!

Густа пахла згарэлым порахам.
Ноч запальвала ліхтары.
Прывіталіся моўчкі два ворагі,
Развіталіся два сябры.

А назаўтра іскрыстым раннем
Сонца бачыла, як у лясок
З дружнай песняю на братанне
Выйшаў цэлы стралковы полк.

*1935 г.*

## РАДАСЛОЎНАЯ

Прасачы ад малпы ці Адама
Продкаў паважаных развіццё.
Быццам за замкамі, за гадамі
Захавана іхняе жыццё.

Рослы селянін з-пад Магілева,
Жыў мой прадзед у глухім сяле.
Жыў на месцы ўсё жыццё, як дрэва,
У цемры, як кажан жыве ў дупле.

Свет не бачачы далей мястэчка,
Працаваў з зары і да зары,
Гнуў спіну ў абшарніцкім двары
І сатлеў пакорна, быццам свечка.

На паглум аддай жыццё ў салдаты!
Дзед, хоць быў і смелы чалавек,
Каб не скласці косці на Карпатах,
Палец на руцэ адсек.

Сорак сутак насустрэчу сонцу
Бацька ехаў у чужую даль
Шапкамі перамагаць японца
І прывёз кастыль, а не медаль.

Каля Віслы брат памёр ад газаў,
Роднай не пабачыўшы зямлі.

І нарэшце — камбайнер калгаса —
Я апошні з нашае сям'і.

За гадамі, за глухой заслонай
Бачу продкаў невясёлы век.
Я з свае вялікай радаслоўнай —
Самы найшчаслівы чалавек!

*1936 г.*

* * *

Дзе ты, чарнавокая,
Блізкая, далёкая,
Светлая, падобная вясне?
Можа ў гэты вечар
Ты чакаеш стрэчы
І таксама марыш пра мяне?!

Каля воднай станцыі
З песнямі і танцамі
Моладзь весялілася гурбой.
За цяністым паркам,
Дзе прастор байдаркам,
Там я пазнаёміўся з табой.

Кожнай сваёй рыскаю
Ты мне стала блізкаю,
Нібы сябравалі многа год.
Над ракой блукалі,
Песенькі спявалі,
Разам сустракалі сонца ўсход.

Птушкі чулі-бачылі,
Стрэчу як прызначылі,
Дзе дубы над возерам раслі.
Час быў нешчаслівы —
Трохгадзінны лівень
Нашу дружбу цёплую разліў.

З той пары прыходжу я
У парк, цябе, прыгожая,
Поглядам шукаю між дзяўчат.
Колькі ні ўглядаўся,
А цябе няма ўсё,—
Сумны я вяртаюся назад.

Дзе ж ты, чарнавокая,
Блізкая, далёкая,
Светлая, падобная вясне?
Можа ў гэты вечар
Ты чакаеш стрэчы
І таксама марыш пра мяне?!

*1937 г.*

## МУЖНАСЦЬ

Плынь серабрыстая ракі
Фронт напал падзяліла.
Стаяць на берагах палкі —
Два ворагі, дзве сілы.

Асеннім вее халадком,
Пакрыта даль імглою;
Як пругкі тыгр перад скачком,
Мост выгнуўся дугою.

Спяць насцярожана палі,
І ў цішыні магільнай
Стаяць на варце патрулі,
За мостам сочаць пільна.

Байцоў склікае камандзір —
У голасе трывога:
— З Мадрыда к нам праз сем гадзін
Прыбудзе дапамога.

Ды будзе позна. Сонца рос
Яшчэ не вып'е — Франка
Без перашкоды цераз мост
Натоўпам пусціць танкі.

І танкі рушаць на Мадрыд,
Гармат узняўшы спіны.

Іх толькі грозны дынаміт,
Мост узарваўшы, спыніць.

Ці знойдзецца такі смяльчак,
Хто смерць сустрэць гатовы?..
Рашуча падышоў юнак,
Мартынес з-пад Кардовы.

— Чужы збіраў я вінаград,
Касіў чужыя травы,
І я сягоння буду рад
Сваю выконваць справу!

Працяг быў цемнатой спавіт,
Стаяў атрад маўкліва.
Узяў Мартынес дынаміт
І ў ноч пайшоў імкліва.

Пражэктар гнаўся ўслед за ім,
Змардаваным і потным.
І кулямёт праз едкі дым
Закашляў, як сухотны.

Замітусіўся рой салдат,
Як раздражнёны вулей.
— Уперад! Выканаць загад
Раней, чым скосіць куля!

Ён падае і зноў паўзе
Праз лужы, праз канавы,

І па пяску, і па расе —
Іступкай след крывавы.

А вось і мост. На дынаміт
Кладзі гранату...
                    Ранкам
Тут з дзікім гулам на Мадрыд
Не праімчацца танкі.

Над чорнай стромаю ракі,
Як дрэва, выбух вырас.
І песня скончана. Такім
Героем быў Мартынес.

*1938 г.*

## РАЗВІТАННЕ З ЛАГЕРАМ

Адкрасавала залатое лета
Травой духмянай, гулам пчол ля кветак,
Кустом ажыны, пахам канюшыны,
Вясёлым хорам галасоў птушыных.

Малінавым адпалымнела ранкам,
Дугой вясёлкі, росчыркам маланкі,
У лісці зялёным адшумела ліўнем,
Састарылася пладаносным жніўнем.

Прыходзіць восень ў сівізне тумана,
І воблакі, як хвалі акіяна,
Навіслі над зямлёй з нямой пагрозай...
Цяжэй і халадней на травах росы.

Наліты чырванню рабіны гроны,
Шумяць тужлівай пазалотай клёны.
Імкнуць у вырай птушкі ў высі шэрай...
І нам пара на зімнія кватэры.

Тут дні міналі лагернай вучобы:
Вось мы капалі ротаю акопы;
Вось стрэльбішча ў густых і рослых травах,
Вунь рэчка, дзе масцілі пераправу;

Вунь хмызнякі, дзе мы вялі разведку...
Усё, што было работы нашай сведкай,—
Бывай.
Да будучай вясны, да стрэчы новай.
Бяжыць дарога ўся ў лісці барвовым.

*1940 г.*

## КАЛЫХАНКА

Добрым часам, ціхай ночкай,
Лёгкі сон, зляці на вочкі,
Баю, баю, баю, бай,
Спі спакойна, засынай.

Каб ты цяжкіх сноў не знала,
Бесклапотна засынала,
Табе песеньку спяю
Я пра долюшку тваю.

У цяжкай зморы на пастаці
Нарадзіла цябе маці,
Шостай ты ў сям'і была
І без догляду расла.

Табе маці не спявала,
А зязюля кукавала,
Буйны дожджычак купаў,
Золкі вецер калыхаў.

А цяпер, маё малое,
Больш не ўбачыш гора злое.
Ясным ранкам вераснёвым
Зажылі жыццём мы новым.

Ты расці, ты цвіці,
Будзь шчаслівай у жыцці.

*Мінск — Гомель,*
*1939—1940 гг.*

* * *

Як шмат і лёгкіх і суровых
Дарог пралегла ў белы свет.
Ты сам па іх свой значыш след,
Сам гаспадар шляхоў жыццёвых.
Ды важна зразу чалавеку
Знайсці сябе ў сваім жыцці,
Сваёю сцежкаюісці,
А не блукаць,
А не паўзці
Не здольным ні на што калекам.
Глядзіш, як у хлапца другога
Чым не занята галава:
Імкненняў многа, планаў многа,
Але мінае год і два,
А там і цэлага паўвека,
І сушыць горкая туга,—
Што ён ні чорту качарга
Ні богу свечка. Нуль. Няўмека.

Здаецца, меў і розум смелы
І здатным чалавекам слыў,
Але не так, як мог, пражыў,
Пражыў, як мокрае згарэла:
Ні полымя, ні цеплыні,
Бяздарна праляцелі дні
У бясплоднай, дробнай мітусні.

*1940 г.*

## РАЗВЕДЧЫК

Асцярожным, мяккім крокам
Ён ідзе між хвой старых,
Па густым асеннім змроку,
Па ярах,
Равах крутых.

Ён ідзе, вядзе разведку.
Ціха, сонна ўсё наўкол.
Толькі птушка ўскрыкне зрэдку,
Шышка зваліцца на дол.

Можа, ворагі заўважаць
І адрэжуць шлях назад?..
Ён за хваляю заляжа,

Злоснай гутаркай адкажа
Яго верны аўтамат.

Азвярэлы вораг рыне
На яго, шлючы праклён.
Смерцю труса не загіне,
Не патрапіць у палон.

Да апошняе хвіліны
Будзе мужным
І пакіне
Для сябе адзін патрон.

*Кастрычнік 1940 г.*

## РАНАК

Асіны палахлівы ліст
Дрыжыць пад раннім колкім ветрам.
Над лагерам зайграў гарніст
І рэхам абудзіў паветра.

Знікае млявасць.
Дружна ўсе
Выходзім з цёплае палаткі,
Наперагонкі па расе
Бяжым да рэчкі на зацяткі.

Мы, як дубовыя кражы,—
З нас кожны дужы і здаровы.
І гэтак лёгка на душы,
Настрой, як светлы дзень вясновы.

Туман ўзнімаецца ўгару,
Чапляецца за голлі дрэваў,
І птушкі летнюю зару
Вясёлым сустракаюць спевам.

Вось сонца яснага прамень
Пакрыў яліны пазалотай.
Вітанне, новы слаўны дзень,
З вучобай, з спорнаю работай!

*Жнівень 1940 г.*

* * *

Дзень мінуў, і сонца круг патух,
Запаліўшы воблакі праменнем.
Што карыснага зрабіў, мой друг,
Ты правер перад сваім сумленнем.

Каб не мучыў сорам перад тым,
Як апошняя часіна прыйдзе,
Што ты век пражыў жыццём пустым,
Што нашчадкі на цябе у крыўдзе.

*1941 г.*

# КОРАТКА АБ АЎТАРАХ

**Змітрок Астапенка** нарадзіўся ў лістападзе 1910 г. у вёсцы Калеснікі, Хіславіцкага раёна, Смаленскай вобласці, у сям'і настаўніка. Пасля сканчэння Мсціслаўскага педагагічнага тэхнікума ў 1929 г. пераехаў у Мінск.

Пачынаючы з 1926 г., сістэматычна друкуецца ў рэспубліканскіх часопісах і газетах. Зборнікі З. Астапенкі: «На ўсход сонца» і «Краіне» (1931), «Абураныя» (1932). У 1957 г. выйшла кніга «Выбранае».

З. Астапенка загінуў у 1944 г. у варожым тыле.

**Леанід Гаўрылаў** нарадзіўся ў 1918 г. у вёсцы Бердаж, Чачэрскага раёна, у сям'і рабочага-сезонніка. Вучыўся ў Мінскім інстытуце народнай гаспадаркі і на літаратурным факультэце Гомельскага педінстытута, які скончыў у 1940 годзе, і быў прызваны ў армію. Служыў на пагранічным ў танкавым палку механікам-вадзіцелем. З першага дня вайны ўдзельнічаў у цяжкіх баях, дзе і загінуў.

Першыя вершы надрукаваны ў альманаху «Аднагодкі» (Мінск, 1937 г.).

Бібліяграфія: «Вернасць» (1961).

**Аркадзь Гейне** нарадзіўся ў 1919 г. на Віцебшчыне, у сям'і служачага.

Закончыўшы Камуністычны інстытут журналістыкі, паэт працаваў у рэдакцыях беларускіх газет. Першая кніга вершаў «Шчаслівая зорка» выйшла з друку ў 1939 годзе.

Загінуў малодшы лейтэнант Аркадзь Гейне ў 1942 годзе на Сталінградскім фронце.

**Алесь Дубровіч** (Аляксей Рэдзька) нарадзіўся ў 1906 г. у вёсцы Галубічы, Пліскага раёна, Віцебскай вобласці, у сям'і селяніна. У 1933 г. прымаў удзел у першым нелегальным з'ездзе пісьменнікаў нацыянальна-вызваленчага руху і неўзабаве трапіў у вядомую віленскую турму Лукішкі. Пасля судовага працэсу групы беларускіх рэвалюцыйных пісьменнікаў у 1936 г. у Вільні ён выйшаў «на волю», адбыўшы два гады да суда. У 1936—1939 гг. на старонках «Беларускага летапісу», а пасля і «Калосся» з'яўляюцца вершы Рэдзькі пад псеўданімам Алесь Дубровіч.

Пасля вызвалення Заходняй Беларусі працаваў у сялянскіх камітэтах, быў выбраны старшынёй сельсавета.

Алесь Дубровіч, як падпольшчык, расстраляны гітлераўцамі ў 1941 годзе.

**Рыгор Жалязняк,** беларускі крытык і паэт, нарадзіўся ў 1914 годзе ў сям'і віцебскага рабочага.

У 1933 годзе паэт вучыцца ў кінатэхнікуме на сцэнарным сектары, пасля — у Ленінградскім інстытуце імя Герцэна, затым у аспірантуры пры тым жа інстытуце.

Віцебскі філіял савецкіх пісьменнікаў выдаў у 1934 годзе зборнік вершаў паэта «Вясновыя будні».

Загінуў Рыгор Жалязняк у 1942 годзе пры абароне Ленінграда.

**Алесь Жаўрук** (Сінічкін) нарадзіўся 19 жніўня 1910 г. у горадзе Рослаўлі ў сям'і служачага. Пасля сканчэння Рагачоўскага педагагічнага тэхнікума ў 1934 г. паступіў у Маскоўскі інстытут гісторыі,

філасофіі і літаратуры. Займаўся ў аспірантуры пры Акадэміі навук БССР.

**Першыя творы** з'явіліся ў друку ў 1926 г. Праз дзесяць год выйшаў з друку зборнік «Ручаіны», у 1938 г.— кніга «Дняпро выходзіць з берагоў».

Баявы афіцэр 62-й арміі Алесь Жаўрук загінуў на Волзе ўлетку 1942 г.

Дзяржаўнае выдавецтва БССР у 1960 г. выдала кнігу «Выбранае».

**Сяргей Крывец** нарадзіўся ў 1909 г. у вёсцы Дубна, Скідзельскага раёна, працаваў цесляром, не расстаючыся з кніжкай.

У 1940 годзе ён паспяхова здаў экзамены ў Беластоцкі педагагічны інстытут, дзе вучыўся да Айчыннай вайны. У пачатку красавіка 1945 года, у час штурму Гдыні, Сяргей Крывец быў цяжка паранены, 28 красавіка памёр.

**Аляксей Коршак** нарадзіўся ў 1920 г. на Случчыне, у вёсцы Вуглы, Капыльскага раёна.

Вучыўся на літаратурным факультэце Мінскага педінстытута імя Максіма Горкага.

У гады Айчыннай вайны на фронце малады паэт быў разведчыкам.

Загінуў Аляксей Коршак ва Усходняй Прусіі смерцю героя.

Бібліяграфія: «Апаленыя пялёсткі» (1963).

**Алесь Мілюць** нарадзіўся 21 лістапада 1908 года, у вёсцы Скорычы, Мірскага раёна.

Друкавацца пачаў у 1928 годзе. На фронце ва Усходняй Прусіі 26 кастрычніка 1944 года паэт паў у бойцы з нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

**Алесь Пруднікаў** прыйшоў у паэзію ў пачатку трыццатых гадоў. Яго першы верш быў змешчаны

ў «Чырвонай змене» ў 1930 годзе. Паэма «Ясныя зоры» ў 1932 годзе выйшла асобнай кніжкай у Дзяржаўным выдавецтве Беларусі.

У жніўні 1941 года, у трыццацігадовым узросце, паэт аддаў жыццё за Радзіму, будучы разведчыкам партызанскага атрада ў Карэліі.

**Уладзімір Рагуцкі** нарадзіўся 9 снежня 1917 года ў вёсцы Цёплае, Чавускага раёна, Магілёўскай вобласці.

У 1939 годзе скончыў літаратурны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута.

У 1940 годзе Дзяржаўным выдавецтвам БССР быў прыняты да друку першы зборнік вершаў Уладзіміра Рагуцкага. Зборнік страчаны ў час вайны. Паэт у 1941 годзе, абараняючы Радзіму, паў на полі бітвы.

**Мікола Сямашка** нарадзіўся ў 1914 г. у вёсцы Барылы, Ветрынскага раёна, у сялянскай сям'і.

У 1939 годзе ідзе ў Чырвоную Армію, радыстам зенітнай часці ён удзельнічае ў вызваленні Заходняй Беларусі. У гэтым жа годзе ў Мінску выдаецца яго першая кніга «Шчырасць». З першых дзён Айчыннай вайны Мікола Сямашка знаходзіцца на фронце. Загінуў у 1941 годзе, абараняючы Оршу.

**Рыгор Суніца** (Лынькоў) нарадзіўся ў 1911 годзе ў сям'і чыгуначніка.

Друкавацца пачаў з 1926 года ў выданнях Бабруйскай філіі «Маладняка».

Шмат перакладаў Уладзіміра Маякоўскага на беларускую мову.

Загінуў, абараняючы Радзіму.

**Мікола Сурначоў** нарадзіўся на Рагачоўшчыне ў 1917 годзе. Вучыўся на літаратурным факультэце ў Гомельскім педінстытуце, а потым працаваў у рэдакцыях газет «Звязда» і «Чырвоная змена».

З першых дзён Вялікай Айчыннай вайны М. Сурначоў знаходзіўся ў дзеючай арміі.

На подступах да Берліна варожы снарад абарваў жыццё старшага лейтэнанта Міколы Сурначова.

Выйшлі зборнікі вершаў «На сурмах баравых» (1946), «Зара барвовая» (1959).

**Андрэй Ушакоў** нарадзіўся ў 1912 г. у Чавускім раёне, Магілёўскай вобласці, у сям'і селяніна. У 1930—1932 гг. працаваў на заводзе імя Кірава ў Віцебску, адначасова вучыўся на сцэнарным сектары Віцебскага кінатэхнікума. У 1939 годзе скончыў літаратурны факультэт Маскоўскага інстытута гісторыі, філасофіі і літаратуры. З першых дзён вайны знаходзіўся на фронце. Загінуў у баях, абараняючы Беларусь, у 1941 годзе.

Бібліяграфія: А. Ушакоў, П. Ананьеў «Рабочы пульс» (1932), «Зарыва вагранак» (1933), «Праца і маладосць» (1933), «Голас Радзімы» (1938); А. Ушакоў, А. Жаўрук «Мой таварыш», вершы для дзяцей (1940), выбраныя вершы «Наша маладосць» (1962).

ЗМЕСТ

*А. Коршак*



*А. Мілюць*



*А. Пруднікаў*



*Ул. Рагуцкі*

*М. Сямашка*



*Р. Суніца*



*М. Сурначоў*



*А. Ушакоў*

**Крывёю сэрца.**
Мінск, «Беларусь», 1967.
180 с. (Бібліятэка беларускай паэзіі).
7300 экз. 66 к.

У зборнік увайшлі вершы беларускіх паэтаў, якія загінулі ў часы Айчыннай вайны.

7-4-3 / —67 Бел2 К85

На белорусском языке. Кровью сердца
Издательство «Беларусь». Минск, Ленинский проспект, 79
Рэдактар Р. Барадулін. Афармленне В. Юрчанка. Мастацкі рэдактар Л. Прагін. Тэхнічны рэдактар Н. Сцяпанава. Карэктар Т. Кашкан.

Здадзена ў набор 14/VIII 1967 г. Падп. да друку 14/XI 1967 г. Тыраж 7300 экз. Фармат $60 \times 90^{1}/_{32}$. Папера друк. № 1. Ум. друк. арк. 5,625. Уч.-выд. арк. 5,1. Зак. 673. Цана 66 к.

Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа. Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па друку. Мінск, Чырвоная, 23.